

# Беларус

75-ГОДЗЬДЗЕ!
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».
Рада БНР

№ 402 Чэрвень-ліпень 1993
Год выд. 42

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

## ПРЫСЯГА І ЗАРОК

**Да Першага Зьезду беларусаў сьвету**

Улетку 1919 году, калі чужацкія акупацыйныя сілы таптталі кволыя парасткі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці, Янка Купала ў вершы «Паўстань з народу нашага...» клікаў народнага Прарока і ўмаляў яго:

Зьбяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі зь яе прысягу і зарок,
Што не прадасьць сябе, сваю зямлю...
Зьняць путы Бацькаўшчыне ўстань,
Прарок...

Як і тры чверці стагодзьдзя таму, Купалава мальба гучыць і сёньня трывожна надзённым заклікам: не прадаць сябе, сваю зямлю, ня здрадзіць ідэі вольнай дэмакратычнай Беларусі!..

Путы парваныя, але ня зьнятыя. Яны відны яшчэ на шмат якіх помніках нядаўнае трагічнае мінуўшчыны, на вулічных знаках, назовах некаторых інстытуцыяў, на мове, на сьведамасьці. Яшчэ можа адбыцца гандаль Беларусяй...

У гэтым гістарычна адказным часе, упяршыню за паваеннае саракагодзьдзе, на пачатку ліпеня сёлета ў сталічным Менску зьбіраецца зблізку й здалёк Беларуская Сям'я, Першы Зьезд беларусаў сьвету.

Што гэта за падзея? Якое ейнае значэньне? Чым гэты зьезд павінен стацца?

Зьезд беларусаў сьвету — гэта далейшы, і вельмі важны, крок у замацоўваньні нацыянальна-ідэйнага адзінства беларускага народу і справы будаваньня беларускай дзяржаўнасьці.

Значэньне Зьезду беларусаў сьвету ў тым, што падзея гэтая дэманструе сабой прыцягальную сілу ідэалу Вольнай Беларусі, паказвае вернасьць гэтаму ідэалу раскіданых па цэлым сьвеце сыноў і дачок Бацькаўшчыны, іхную салідарнасьць з патрыётамі на родных землях.

Першы Зьезд беларусаў сьвету павінен запачаткаваць трыдцыцю гэткіх зьездаў — магчыма, што чатыры-пяць гадоў — каб ніколі больш не парывалася сувязь паміж грамадзянамі Беларусі і ўраджэнцамі Беларускай зямлі, раскіданымі па цэлым сьвеце — каб іх заўсёды лучыла духовая і фізычная повязь у працы і творчых намаганьнях на карысьць дэмакратыі, правоў чалавека, мірнага сужыцьця з суседзямі ды на дабро ўсіх грамадзянаў вольнай Беларускай Дзяржавы.

### СТ. ШУШКЕВІЧ ЗАПРОШАНЫ Ў ЗША

На сустрэчы з амэрыканскім паслом па справах раззбраеньня Джэймсам Гудбі Старшыня ВС Беларусі Станіслаў Шушкевіч сказаў: «Я сапраўды атрымаў запрашэньне ад Вашага прэзыдэнта і вельмі ганаруся гэтым. Мы будзем самым старанным чынам рыхтавацца да гэтага візыту, каб ён быў выніковым, а ня проста прадстаўнічым». (ВТ, 29.04.93,11)

Візыт Шушкевіча ў Амэрыку, калі ня здарыцца нічога непрадбачанага, адбудзецца ў другой палавіне ліпеня сёлета.

### *«ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ» ВАШЫНГТОН — МЕНСК*

Паводля амэрыканска-беларускай дамоўленасьці, дасягнутай на пачатку красавіка сёлета, амэрыканскі бок падрадзіўся даць Беларусі ў травенічэрвені патрэбнае абсталяваньне для стварэньня першага каналу хуткадзейнай спадарожнікавай сувязі, гэтак званай гарачай лініі Менск — Вашынгтон. Увод каналу сувязі намечаны на 31 жніўня сёлета. Другая чарга лініі прадбачыцца на ліпень 1994 году. (ВТ, 9.04.93,9)

### *АКТЫВІЗАЦЫЯ ГРАМАДЗТВА*

У Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравана больш за 500 грамадзкіх арганізацыяў. Прадбачыцца, што ў недалёкай будучыні іх будзе 1,5 тысячы. Паводля колькасьці арганізацыяў на душу жыхарства, беларусы саступаюць толькі расіянам. (ВТ, 17.05.93,16)

### ПОЛЬСКА-ЎКРАІНСКАЕ ПАДТРЫМАНЬНЕ БЧС

Прэзыдэнты Польшчы і Ўкраіны, Лех Валэнса і Леанід Краўчук — галоўныя прыхільнікі стварэньня ў Цэнтральнай Эўропе сыстэмы бясьпекі, у якую ўвайшлі-б усе дзяржавы Цэнтральнай Эўропы за выключэньнем Расеі. Вэнгерскі прем'ер Ёзэф Антал падтрымаў на мінулым месяцы гэтую ідэю ў сваіх гутарках з Краўчуком. Украінскія ўрадаўцы кажуць, што іншыя дзяржавы рэгіёну таксама падтрымваюць ідэю такога саюзу. Як патлумачыў заступнік міністра замежных справаў Украіны Барыс Тарасюк, гутарка тут ідзе не пра стварэньне нейкага ваеннага блёку ці арганізацыі, а пра мэханізм сталых кансультацыяў. «Мы ня маем намеру ствараць ахоўную паласу паміж намі і Расеяй або недапушчаць Расею да інтэграцыі ў Эўропу», зазначыў Тарасюк.

Як сказаў аднак Валэнса на ўкраінскім тэлебачаньні ў часе нядаўнага візыту на Ўкраіну, у яго й Краўчука зашмат нутраных цяжкасьцяў, каб займацца цяпер справай кансалідацыі дачыненьняў паміж Украінай, Польшчай ды іншымі суседнімі дзяржавамі. (Паводля Ройтэра з Кіева, 24 траўня).

Балтыцка-чарнаморская садружнасьць, ідэю якое падтрымвае і Беларускі Народны Фронт, застаецца, такім чынам, справаю будучыні. Тым ня менш, ідэя гэтая мае сваіх уплывовых прыхільнікаў.

## ПРАГРАМА

### СЬВЯТКАВАНЬНЯЎ, КАНФЭРЭНЦЫЯЎ, ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ Ў БЕЛАРУСІ Ў ЧЭРВЕНІ-ЛІПЕНІ 1993 Г.

**25-27 чэрвеня** — у Менску й Заслаўі 200-годзьдзе Менскай епархіі.

**28 чэрвеня — 2 ліпеня** — у Горадні, у Горадзенскім Унівэрсытэце імя Янкі Купалы, Міжнародная канфэрэнцыя «Рым-IV», прысьвечаная праблемам узаемадзеяньня нацыянальных і рэгіянальных культураў, культурнаму памежжу Беларусі, Летувы, Польшчы і Ўкраіны.

**6-7 ліпеня** — у Менску 3-я Ўсебеларуская палітычная канфэрэнцыя па пытаньнях:

1. Юрыдычная і палітычная ацэнка рашэньняў 2-й Бэрлінскай канфэрэнцыі.
2. Палітычная сытуацыя ў сучаснай Беларусі.
3. Прынцыпы канстытуцыйнага і дзяржаўнага ладу дэмакратычнай незалежнай Беларусі.

На канфэрэнцыю запрашаюцца прадстаўнікі ўсіх партый і рухаў дэмакратычнай арыентацыі, якія існуюць у Беларусі, і грамадзка-палітычных арганізацый беларускай дыяспары.

**5-11 ліпеня** — Першы зьезд беларусаў сьвету.

Пленарныя паседжаньні (8-10 ліпеня) будуць праходзіць у Менску ў памешканьні Вялікага дзяржаўнага акадэмічнага тэатру опэры й балету. Рэгістрацыя й разьмяшчэньне ўдзельнікаў зьезду будуць праводзіцца зь 5 ліпеня ў гатэлі «Беларусь».

Усе запрошаныя ўдзельнікі ў часе работы зьезду (5-11 ліпеня) забясьпечваюцца месцамі ў гатэлі, харчаваньнем і культурна-турыстычнай праграмай за кошт Аргкамітэту.

На 6-7 ліпеня для ўдзельнікаў зьезду заплянаваныя падарожжы і ўдзел у сьвяткаваньні Купальля, культурна-масавых мерапрыемствах у Навагрудку і Нясьвіжы. Аб сваіх асабістых плянах просіцца паведаміць Аргкамітэту на адрас: 220053 Беларусь, Менск, Даўгінаўскі тракт, 52-9. Нумары тэлефону: (0172) 273-238, 270-140, 370-544, 384-437; факс: (0172) 370-544 або 274-521.

**ПРАГРАМА (ПРЫКЛАДНАЯ) работы Першага Зьезду беларусаў сьвету 8-10 ліпеня 1993 г.**

**8 ліпеня**
Адкрыцьцё зьезду.
Прывітаньні.
Асноўны даклад ад сусьветнай беларускай грамадзкасьці «Шляхі і пэрспэктывы беларускай дзяржаўнасьці».
Даклад ад ураду Рэспублікі Беларусь «Эканамічная сытуацыя і магчымасьці выхаду з крызісу».
Даклад ад Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» «ЗБС 'Бацькаўшчына' на цярністым шляху яднаньня беларусаў сьвету».
Выступленьні ўдзельнікаў зьезду.
Вечар — канцэрт беларускага мастацтва.




**9 ліпеня**
Работа круглых сталоў па тэмах.
— Беларуская дзяржаўнасьць
— Беларуская гаспадарка, прадпрымальніцтва.
— Беларуская культура і інш.

Асноўная мэта работы круглых сталоў — аналіз сытуацыі ў Беларусі ў адпаведнасьці са сваёю тэмаю, збор прапаноў, рэкамэндацый, парадаў для наладжваньня далейшага супрацоўніцтва, абмеркаваньне шляхоў дапамогі беларускай дыяспары з боку Рэспублікі Беларусь і аказаньне дапамогі рэспубліцы з боку замежных беларусаў. Форма работы — даклады, выступленьні, спрэчкі, дыскусіі, заўвагі, вольны абмен думкамі.

Вечар — сустрэчы па інтарэсах ва ўстановах, арганізацыях, на прадпрыемствах, у творчых саюзах, грамадзкіх арганізацыях.

**10 ліпеня**
Пленарнае паседжаньне.
Падагульненьне работы круглых сталоў, выступленьні кіраўнікоў.
Прыняцьце заключных дакумэнтаў.
Выбары кіруючых органаў.
Вечар — сяброўская вечарына, частаваньне беларускімі стравамі.

Пад час работы Зьезду беларусаў сьвету будзе праведзены Форум для беларускіх дзяцей у маляўнічым кутку Беларусі ў летніку на возеры Нарач. Вашы дзеці, унукі змогуць глыбей пазнаёміцца з народнымі звычаямі і традыцыямі, пасябраваць са сваімі аднагодкамі, зрабіць цікавыя вандроўкі па Беларусі, навучыцца сьпяваць беларускія народныя песьні. Удзельнікаў Форуму чакаюць цікавыя сустрэчы са знакамітымі людзьмі, экскурсіі, розныя імпрэзы і канцэрты, спартыўныя спаборніцтвы і гульні.

Пра ваша жаданьне прыняць удзел у Нарачанскім Форуме Аргкамітэт просіць паведаміць загадзя на вышэй пададзеныя адрас ці нумары тэлефону і факсу.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## «ЛЕПШ-БЫ МЯНЕ АДРАЗУ ЗАСТРЭЛІЛІ»

Пад такім загалоўкам паявіўся артыкул у газэце «Наша Слова» за 20 студзеня 1993 г. Людмілы Краснадубскай. У 1945 г. яна паступіла ў Глыбоцкае пэдагагічнае вучылішча. Цяжкія былі пасьляваенныя гады, ня было паперы да пісаньня, дык карысталіся паперай выкінутай з розных установаў, на якой адзін бок ня быў запісаны. Дык вось аднойчы трапіў у рукі апытальнік, дзе нейкі небарака ня ведаў, што адказаць у рубрыцы «Нацыянальнасьць», ды паставіў «тутэйшы». Гэта дало ёй і яе сябрам імпульс заснаваць патрыятычную супалку з мэтай паглыбленьня нацыянальнай сьведамасьці ды пашырэньня інфармацыі аб нашай гісторыі, сымболіцы і культуры. Пазьней далучылася да іх пастаўская група ды яны заснавалі Саюз Беларускіх Патрыётаў. Прысягнуўшы на вернасьць беларускаму народу, яны ўзяліся працаваць над тым, каб наш народ стаўся гаспадаром у сваёй хаце. Гэта было ўжо вялізарнае праступства ў вачох савецкіх акупацыйных уладаў. Далейшы парадак вядомы. Людмілу арыштавалі ды скованую кінулі ў турму. У тым часе яна ўжо чакала дзіцяці, адчувала нявіннае жыцьцё ў сваім целе.

Допыты, прызнаньне няіснуючай віны, суд, 10 гадоў Гулагу ды вываз. Сынок нарадзіўся ў турме. Малако прапала. 135 дзён і начэй яна глядзела ў вочкі сыночка, які канаў з голаду. І ўсё гэта ў краіне так званага шчасьлівага дзяцінства.

Мне прыпамінаецца 1941 год, калі я быў прыняты на настаўніка ў дзесяцігодку ў Любчы. Любча — чыста беларускае мястэчка, але ў школе навучальная мова была расейская. Я запытаў дырэктара, тав. Міхайлава, чаму не беларуская мова.

— А Вы што — нацыяналіст?

— Так, — адказаў я, — пад польскай акупацыяй мы змагаліся за беларускія школы, ды яны нам іх зачынялі. Цяпер, калі нас вызвалілі, дык хіба-ж больш змагацца няма патрэбы, бо ў БССР дзяржаўнай мовай павінна быць мова беларуская.

Міхайлаў мне нічога не адказаў на гэта. Месяц пазьней я апынуўся ў сваёй сталіцы Менску ў «гатэлі» Амэрыканка. Кожны там прызнаваўся да любой віны, залежала толькі як доўга вытрымае сьледства. Прызнаешся — 10 гадоў. Будзеш лішне ўпірацца — тройка НКВД ды прысуд сьмерці. Недалёка ад Менску — Курапаты. Адна куля ў патыліцу, і справа закончана. Так савецкая акупацыйная ўлада развязвала нацыянальную праблему на Беларусі.

Колькі-ж сыночкаў ды дачушак загубіў бальшавіцкі акупацыйны ўрад? На гэта няма адказу. Можа варта было-б пашукаць яго, палічыць ахвяры, пашукаць вінаватых калябарантаў, якія сьлепа служылі акупанту. Магчыма, цяпер новалегалізованая КПБ прыме на сябе калектыўную віну за праступствы над беларускім народам? А можа КДБ прыме на сябе адказнасьць за крымінальныя ўчынкі сваіх папярэднікаў? Сумняваюся. Яны яшчэ верныя свайму настаўніку Дзяржынскаму, якому і сяньня пакланяюцца, ідучы на працу ў будынак КДБ. Дык хто-ж прыме адказнасьць? Можа пара адчыніць архівы НКВД — КДБ? Не каб шукаць помсты, але каб больш такія праступствы й зьдзекі над нашым народам не паўтараліся.

Хачу верыць, што Твае, дарагая Людміла, цярпеньні ня былі дарэмныя ды што наш народ збудуе сабе лепшую будучыню, калі нашы сыны й дачушкі ня будуць больш паміраць з голаду ў турэмных падвалах акупанта.

**Б. Рагуля**

## ПРЫВІТАНЬНЕ ТРЭЦЯМУ ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ» АД БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ

Дарагія Суродзічы — удзельнікі зьезду! Галоўная ўправа і сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня шчыра вітаюць ваш высокі сход і жадаюць вам усякай памысьнасьці ў працы. Ваш зьезд адбываецца ў эпахіяльным часе, калі перад усімі намі стаіць суровае пытаньне, быць ці ня быць беларускай нацыянальнай дэмакратычнай дзяржаве. Перад вамі стаіць вялікае заданьне вызначыць далейшую праграму дзеяньня, якая знайшла-б максымум падтрыманьня ў беларускім грамадзтве ды забясьпечыла-б гэтай праграме шанцы на ейнае ўжыцьцёўленьне. Мы ведаем, што гэта заданьне нялёгкае, але мы верым у вашую самаахвярную адданасьць справе беларускага нацыянальнага адраджэньня і пабудовы на Беларусі дэмакратычнага ладу, які забясьпечыць свабоду і раўнапраўе ўсім ейным грамадзянам. Мы выказваем поўную салідарнасьць з вамі у вашай адказнай высакароднай працы на карысьць Беларусі й дэмакратыі ды заяўляем пра сваю гатовасьць быць заўсёды разам з вамі на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня! Шчасьці Божа ў працы. Жыве вольная дэмакратычная Беларусь!.

Нью-Ёрк, 24 травеня 1993 г.

**Антон Шукелайць,**
**старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.**

## ПРЫВІТАНЬНЕ ТРЭЦЯМУ ЗЬЕЗДУ БНФ АД АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ

Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі перасылае ўдзельнікам 3-га зьезду БНФ «Адраджэньне», разам з найшчырэйшымі прывітаньнямі, пажаданьне плённае працы ды спадзяваньне, што нарады дэлегатаў зьезду стануцца далейшым крокам у адбудове беларускай дзяржаўнасьці, у замацаваньні здабытых пазыцыяў і памнажэньні адраджэнскіх радоў. Няхай ніколі больш ня вернуцца на Беларусь залежнасьць ад імпэрскіх цэнтраў і падпарадкаванасьць чужым інтарэсам, што спрычынялі культурны занапад, спараджалі духовае рабства. Хай жыве і квітнее беларускі вольны дух, дух творчай свабоды і працы на карысьць Беларусі.

Жыве Беларусь!

Нью-Ёрк, 24 травеня 1993 г.

**Вера Запруднік,**
**старшыня Арганізацыі**
**Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.**

## КОЛЬКАСЬЦЬ ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСІ

Дзяржаўны камітэт статыстыкі падаў, што на пачатку сёлетняга году Беларусь мела 10 мільёнаў 346 тысячаў жыхароў, на 65.000, або на 0,6% больш як год таму. Гарадзкога жыхарства цяпер 68%, селавога 32%. Дванаццаць гарадоў маюць жыхароў па больш як 100 тысячаў. Сорак гарадоў маюць па 40 тысячаў жыхароў і больш, 83 гарады — звыш 10 тысяч. (ВТ, 12.05.93,9)

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЯНШЫНІ Ў ПОЛЬШЧЫ

Лёнданская польская газэта Dziennik Polski (28.03.93) падала за Польскім Прэсавым Агенцтвам і варшаўскай «Палітыкай» (12/93) статыстыку нацыянальных мяншыняў Польшчы. Цяпер у Польшчы жыве: немцаў — 308-350 тыс., беларусаў — 200-230 тыс., украінцаў — 200-220 тыс., лемкаў — 50-60 тыс., ромаў ці цыганоў — 25 тыс., летувісаў — каля 20 тыс., гэтулькі-ж славакаў, гэбрэяў — 15 тыс., расейцаў — 10-13 тыс., армянаў — каля 8 тыс., грэкаў і македонцаў — 5 тыс., чэхаў — 2-3 тыс., татараў — 2,5 тыс.

## ВІТАЛЬ ШЧЭРБА — ЧЭМПІЁН СЬВЕТУ

**Ад Рэдакцыі:** *У папярэднім нумары «Беларуса» быў зьмешчаны допіс сп. М. Баяроўскага пра ўдзел беларускіх гімнастаў у міжнародных спаборніцтвах у ангельскім горадзе Бірмінгаме. Ніжэй падаём яшчэ адзін допіс пра гэту цікавую падзею.*

У Бірмінгаме ў міжнародных спаборніцтвах на першынство сьвету, што адбыліся 13-18 красавіка, узялі ўдзел і беларускія спартсмэны, дасягнуўшы вялікіх посьпехаў. І так, Віталь Шчэрба, які заваяваў на Барсэлёнскай Алімпіядзе шэсьць залатых мэдалёў, здабыў яшчэ тры залатыя мэдалі ў Бірмінгаме і званьне чэмпіёна сьвету ў гімнастыцы. Беларуская гімнастка Е. Піскун здабыла таксама залаты мэдаль. Выдатна выступілі таксама І. Іванкоў і А. Хан. Паводля экспэртаў, І. Іванкоў можа стацца таксама чэмпіёнам сьвету.

Прыемна было глядзець тэлевізійныя перадачы і чытаць ангельскія газэты, якія так высака ацанілі беларускіх спартсмэнаў. На маю думку, нішто так не пашырае імя Беларусі на Захадзе, як спорт. Добра аб гэтым ведаць і браць больш актыўны ўдзел у розных спартовых спаборніцтвах.

Ніжэй падаю канцавую табліцу дзяржаў, прадстаўнікі якіх здабылі мэдалі ў Бірмінгаме.

| | Залатыя | Сярэбр. | Бронз. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Беларусь | 4 | 1 | 1 | 6 |
| ЗША | 3 | 2 | 0 | 5 |
| Румынія | 1 | 4 | 2 | 7 |
| Расея | 1 | 1 | 1 | 3 |
| Украіна | 1 | 1 | 1 | 3 |
| Італія | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Карэя (Паўночная) | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Нямеччына | 0 | 2 | 1 | 3 |
| Вялікабрытанія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Тайпэй | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Вэнгрыя | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Карэя (Паўдзённая) | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Узбэкістан | 0 | 0 | 1 | 1 |

**М. Швэдзюк**

## ДРУГІ ЗЬЕЗД АБ'ЯДНАНЬНЯ ГЭБРЭЙСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

На пачатку травеня ў Менску прайшоў другі зьезд Беларускага Аб'яднаньня Гэбрэйскіх Арганізацыяў «Якшы» (старшыня — архітэктар Леанід Левін). У прывітальнай тэлеграме зьезду прэм'ер рэспублікі Вячаслаў Кебіч выказаў пажаданьні ўдачы ў працы. На зьезьдзе прамаўляў Міністар замежных справаў Пётр Краўчанка. Былі прадстаўнікі гэбрэйскіх арганізацыяў зь Ізраіля і Нямеччыны. (ВТ, 5.05.93,10)

## *БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАНЬНЕ Ў ІЗРАІЛІ*

«Крыніца» — гэтак названы беларускамоўны дадатак да'расейскамоўнай газэты «Наша страна». Дадатак падтрыхтаваны журналістамі Беларускага інфармацыйнага агенцтва. Новае выданьне прызначана для ізраільскіх грамадзянаў-выхадзянцаў зь Беларусі. У публікацыі — інфармацыя аб жыцьці гэбрэйскіх грамадаў на Беларусі, палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сытуацыі, станаўленьні беларускай дзяржаўнасьці (ВТ, 29.04.93,14)

## АСНОВА БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ БАГАСЛУЖБАЎ

Як падало менскае радыё, 5 травеня ў сталіцы рэспублікі пачаў працу міжнародны сэмінар па праблемах перакладу Сьвятога Пісьма на нацыянальныя мовы. Сэмінар арганізаваны Беларускай Праваслаўнай Царквой і аб'яднанымі біблейскімі таварыствамі, якія маюць свае філіі ў 27 краінах сьвету. Адкрываючы сэмінар, Мітрапаліт Менскі й Слуцкі Філарэт сказаў, што пераклад Новага Запавету павінен стаць асновай багаслужбаў на беларускай мове. (ВТ, 6.05.93, 5; 17.05,13)

Сэмінар працаваў да 14 травеня. Як падало агенцтва «Ніка», дасягнута згода аб супрацоўніцтве беларускага і аб'яднаных біблейскіх таварystваў. Намечаны тэксталягічныя дасьледаваньні славянскай, грэцкай і лацінскай традыцыяў Біблії для перакладу яе на беларускую мову.

## КОЛЬКАСНЫ СКЛАД ЗАМЕЖНЫХ ПРАДСТАЎНІЦТВАЎ

Найбольшая каманда дыпляматаў Рэспублікі Беларусь — 11 асобаў — будзе пры ААН у Нью-Ёрку, па 10 чалавек будуць мець пасольствы РБ у ЗША, Нямеччыне й Польшчы, 9 — у Кітаі, па адным — у Баўгарыі, Эстоніі і інш. (ВТ, 6.05.93,4)

## *ДЛЯ АХВОТНІКАЎ ВУЧЫЦЬ ЗАМЯЖОЙ*

Амэрыканскае Інфармацыйнае Агенцтва (AIA) запрашае выкладчыкаў ВНУ, а таксама настаўнікаў сярэдніх і пачатковых школаў падаваць заявы на стыпэндыю для выкладаньня за межамі краіны ў 1994/95 навучальным годзе. У ліку замежных краін фігуруе таксама Беларусь. Тэрмін для паданьня заявы — 15 кастрычніка 1993 году. Пісаць на адрас: Fulbright Teacher Exchange Program, 600 Maryland Ave., SW, Rm. 142, Washington, D.C. 20024; tel.: (800) 726-0479.

AIA прапануе таксама стыпэндыі для студэнтаў і дактарантаў на спэцыялізацыю па нованезалежных дзяржавах Усходняе Эўропы. Пісаць на адрас: Office of Academic Programs, USIA, 301 4th St., Washington, D.C. 20560; fax.: 202-619-4927.

# III-ці ЗЬЕЗД БНФ І ПАРТЫЯ БНФ

29-30 траўня ў Менску, у Беларускім акадэмічным дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы, адбыўся 3-ці Зьезд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». На ім было 567 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Зьезд прыняў новую праграму, у аснове якое — ідэі незалежнасьці, дэмакратыі, імкненьне да парытэту правоў чалавека і нацыі.

Прывітальныя тэлеграмы ад беларускіх замежных арганізацыяў былі сустрэты гучнымі воплескамі ўсіх прысутных.

Абраны новы Сойм (49 асобаў). Старшыня БНФ, як і раней — Зянон Пазьняк; намесьнікі — Валянцін Голубеў, Уладзімір Заблоцкі, Юры Хадыка.

30 траўня адбыўся Ўстаноўчы зьезд партыі БНФ. Прыняты статут яе і абрана кіраўніцтва. Фактына, гэта тыя самыя людзі, што складаюць Сойм БНФ — выключаюцца толькі тыя, што ўваходзяць у іншыя партыі, статуты якіх забараняюць падвойнае сяброўства (прыкладам, сацыял-дэмакратычная «Грамада»).

Партыя БНФ — юрыдычная асоба, якая пачне практычную дзейнасьць толькі пры абвяшчэньні ў Беларусі выбараў, у якіх Фронту, як шырокаму дэмакратычнаму руху, ня можна будзе браць удзелу.

Сярод гасьцей 3-га Зьезду БНФ былі Вячаслаў Чарнавіл — старшыня Народнага Руху Ўкраіны, Вітаўтас Ландзбергіс — старшыня партыі «Саюз Айчыны» (Летува), Алег Латышонак — старшыня Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня (Беласток, Польшча), Хведар Нюнька — старшыня Таварыства Беларускай Культуры (Вільня, Летува), пасланцы Малдовы, Польшчы, Расеі. Прысутнічала шмат журналістаў, былі прадстаўнікі пасольстваў.

# УХВАЛЫ III ЗЬЕЗДУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

## ПРА СТАНОВІШЧА НА БЕЛАРУСІ

На Беларусі не адбылося зьмены камуністычнае ўлады на дэмакратычную. Менавіта ўлада намэнклятуры робіць немагчымымі ані палітычныя, ані эканамічныя, ані культурныя рэформы. Намэнклятура, у руках якой па-ранейшаму сканцэнтраваная ўлада і кантроль над маёмасьцю, ёсьць сапраўдным палітычным апанэнтам Беларускага Народнага Фронту.

Антынародная, антыдзяржаўная палітыка намэнклятурнага кіраўніцтва Беларусі пачынае даваць відавочныя вынікі. Наступае непазьбежная расплата за дзесяцігодзьдзі панаваньня штучнай эканамічнай сыстэмы. Але калі ў большасьці постсавецкіх краінаў пачаўся рух да сапраўднай эканамічнай рэформы, а ў некаторых і стабілізацыя эканомікі, то на Беларусі становішча пагаршаецца без пэрспэктывы паляпшэньня. Пасьля красавіцкіх страйкаў 1991 году ўрад пайшоў шляхам кансэрвацыі сацыялістычнае сыстэмы, дапусьціўшы непатрэбную разбуральную гіпэрінфляцыю пры адсутнасьці зьменаў у эканамічным ладзе. Такі стан задавальняе намэнклятуру, бо стварае найлепшую магчымасьць ператвараць уладу палітычную ва ўладу эканамічную шляхам пераразьмеркаваньня маёмасьці («прыхватызацыі») і г.д. Фактычна ствараецца мафіёзная дзяржава, дзе зрастаюцца ўлада і крымінальная злачыннасьць.

Кіраўніцтва Беларусі, ня маючы народнае падтрымкі, страціўшы легітымнасьць пасьля антызаконнай забароны рэфэрэндуму аб роспуску ВС і новых датэрміновых выбарах, шукае палітычнае апоры па-за межамі краіны. Яно разьлічвае на падтрымку Расеі і таму гатовае аддаць дзеля захаваньня ўлады й свайго дабрабыту самае сьвятое, што здабыла Беларусь — яе незалежнасьць.

Кожны месяц такога кіраваньня Беларусьсю — гэта чарговы крок да пагаршэньня. БНФ заклікае ўсіх людзей Беларусі згуртавацца і дамагчыся сыходу ў адстаўку цяперашняга Вярхоўнага Савету. БНФ разам зь іншымі дэмакратычнымі сіламі Беларусі выступае за канстытуцыйны шлях палітычных зьменаў. Наш рух валодае дастатковым палітычным аўтарытэтам ды інтэлектуальным патэнцыялам, каб у выніку новых, дэмакратычных выбараў узяць на сябе адказнасьць за лёс Бацькаўшчыны.

## ПРА ЎСЕНАРОДНЫ РЭФЭРЭНДУМ

Палітычны і эканамічны крызіс, ад якога зьнемагае Беларусь, можа быць разьвязаны шляхам усенароднага рэфэрэндуму.

Рэфэрэндум — адзіны мірны канстытуцыйны шлях да карэннай палітычнай рэформы на Беларусі, зь якой пачнецца і яе эканамічнае адраджэньне. Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» нясе маральную і палітычную адказнасьць за волевыяўленьне 442 тыс. грамадзянаў Беларусі, правы якіх парушыў цяперашні камуністычны Вярхоўны Савет. Зьезд нагадвае ра нелегітымнасьць самога існаваньня гэтага органу пасьля ўзурпацыі ім улады. Фронт патрабуе адмены незаконнае пастановы ад 29.10.1992 г. аб адхіленьні рэфэрэндуму і настойвае на правядзеньні абавязковага рэспубліканскага рэфэрэндуму аб датэрміновым роспуску ВС і новых выбарах паводле выбарчага закону, праект якога распрацаваны БНФ. Пры гэтым выбары павінны адбыцца не пазьней сакавіка 1994 г.

## ПРА СТАН І ПЭРСПЭКТЫВУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Стагодзьдзямі гнаная, беларуская культура патрабуе дзяржаўнае падтрымкі — не патэрналісцкай апекі, а дзейснае дапамогі культурным ініцыятывам, што зыходзяць ад творчых людзей і асяродкаў. Іншага шляху ў пэрыяд фармаваньня новае дзяржаўнае сьвядомасьці проста няма. Мы занепакоены адсутнасьцю дзяржаўнае культурнае палітыкі ў той час, калі беларуская культура апынулася перад рэальнаю небясьпекаю зьнішчэньня хваляю чужамоўнае псэўдакультуры. Кампрадорскі мас-культурны бізнэс ужо спрабуе ўплываць на палітычныя рашэньні, якія датычаць карэнных асноваў нацыянальнае культуры. Такога не пацярпела-б ніводная незалежная дзяржава, якая бароніць доўгатэрміновыя інтарэсы і бучыню свайго народу. Але посткамуністычнае кіраўніцтва Беларусі сьвядома вядзе антынацыянальную палітыку, у тым ліку ў культурнай галіне.

Культура — адзіная. Страта мовы азначала-б і згубу беларускага мастацтва, навукі, самой нацыянальнай сьвядомасьці. Патрабуем зрабіць палітычныя крокі дзеля спыненьня антыбеларускай кампаніі за дзяржаўнае двумоўе. Зьвяртаем увагу на невыкананьне тэрмінаў уводу ў дзеяньне палажэньняў Закону аб мовах, на адкрытае ігнараваньне Закону дзяржаўнымі і недзяржаўнымі структурамі краіны. Патрабуем незалежнага кантролю за выкананьнем моўнага заканадаўства і прыняцьця санкцыяў да вінаватых у яго парушэньні. Лічым неабходным неадкладна ўнесьці зьмены ў сыстэму падаткаабкладаньня на карысьць беларускамоўнай выдавецкай і журналісцкай дзейнасьці.

Ня дбаючы належным чынам пра беларускую культуру на Беларусі, цяперашнія ўлады ня рупяцца і пра культурна-нацыянальныя патрэбы карэннага беларускага насельніцтва за межамі дзяржавы. Абыякавасьць афіцыйнага Менска да суродзічаў у суседніх краінах падштурхоўвае іхнія ўлады абмяжоўваць магчымасьці нацыянальна-культурнае дзейнасьці беларускае меншасьці. Фронт вымушаны заявіць, што становішча ў гэтай галіне можа зьмяніцца да лепшага толькі ў выпадку палітычных зьменаў на Беларусі.

## НАПЯРЭДАДНІ III УСЕБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ

Зьезд БНФ «Адраджэньне» вітае аднаўленьне перапыненай дзесяцігодзьдзямі таталітарна-імпэрскага паняволеньня традыцыі правядзеньня ўсебеларускіх палітычных канфэрэнцыяў з удзелам палітычных сілаў Беларусі і беларускай эміграцыі.

Зьезд даручае прадстаўнікам Фронту на III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі адстойваць лінію на незалежнасьць і нэўтралітэт Беларусі. Зьезд выказваецца за адмену рашэньня II (Бэрлінскай) Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі аб спыненьні дзейнасьці кіраўнічых органаў Беларускае Народнае Рэспублікі. Зьезд даручае прадстаўнікам БНФ на Канфэрэнцыі абгрунтаваць неабходнасьць пачатку дзяржаўнага будаўніцтва новай незалежнай Беларусі праз рэфэрэндум аб роспуску Вярхоўнага Савету і новых выбарах паводле дэмакратычнага выбарчага закону.

## ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ
### Зварот

Дарагія суродзічы! Шчыра вітаем усіх вас і зычым шмат радасьці ад спатканьня з Бацькаўшчынай.

Але ўсьлед за натуральнаю радасьцю ад спатканьня з роднаю зямлёю вам давядзецца ўбачыць трагічны стан Беларусі, беларускае культуры, эканомікі, дзяржаўнасьці.

Не дапусьціце, каб на вашых сьвятых пачуцьцях нажывалі сабе палітычны капітал ворагі беларускае незалежнасьці і дэмакратыі.

## ДА ПЫТАНЬНЯ НЭЎТРАЛІТЭТУ

БНФ «Адраджэньне» дамагаецца для Беларусі статусу нэўтральнай і бязьядзернай краіны. Фронт упяршыню вылучыў ідэю нэўтралітэту і дамогся яе канстытуцыйнага замацаваньня ў Дэкларацыі аб сувэрэнітэце Беларусі.

Фронт лічыць, што пасьлядоўны, міжнародна прызнаны нэўтралітэт нашай краіны дазволіць ёй захаваць і ўмацаваць незалежнасьць, выкарыстаць выгоды геаграфічнага становішча ва ўласных эканамічных інтарэсах, набыць міжнародны аўтарытэт. Нэўтралітэт Беларусі зьяўляецца вызначальным чыньнікам захаваньня палітычнае стабільнасьці ў нашым рэгіёне Эўропы. Нэўтралітэт — наймагутнейшая зброя супраць падступных замахаў імпэрскіх сілаў на нашую незалежнасьць. Уваходжаньне ў вайсковы саюз з Расеяй можа прывесьці да страты незалежнасьці. Фронт выступае супраць далучэньня Беларусі да дамовы пра калектыўную бясьпеку.

Разам з тым Зьезд зазначае, што Беларусь працяглы час несла цяжар і рызыку трыманьня на сваёй тэрыторыі ядзернай зброі. Аднак у выніку бяздумнай палітыкі кіраўніцтва Беларусі наша краіна траціць магчымасьць матэрыяльнай або палітычнай кампэнсацыі за гэтую рызыку і за дабраахвотную адмову ад ядзернага статусу. Зьезд лічыць, што Беларусь павінна паставіць перад Расеяй і міжнароднаю супольнасьцю пытаньне пра такую кампэнсацыю.

## ПРА КАНСТЫТУЦЫЮ БЕЛАРУСІ

Незалежная Рэспубліка Беларусь надалей ня можа грунтаваць заканадаўства на палажэньнях канстытуцыі, створанай у часы каляніяльнай БССР і камуністычна-імпэрскага паняволеньня.

Разам з тым ход абмеркаваньня канстытуцыйных палажэньняў у Вярхоўным Савеце засьведчыў, што гэты орган ня здольны прымаць кампэтэнтныя рашэньні па прынцыповых пытаньнях канстытуцыйнага будаўніцтва дэмакратычнага грамадзтва.

БНФ выказвае перакананьне, што прыняць канстытуцыю Беларусі, якая б заклала трывалыя асновы незалежнае дзяржаўнасьці і дэмакратычнага ладу нашае Бацькаўшчыны, зможа толькі новы прадстаўнічы орган, усенародна абраны на аснове дэмакратычнага выбарчага закону.

## ПРА ЎЛАСНАСЬЦЬ НА ЗЯМЛЮ

Найпершы крок радыкальнай эканамічнай рэформы, якога даўно дамагаецца і даўно чакае большасьць грамадзянаў нашае дзяржавы, крок, прадыктованы гісторыяй, — гэта прызнаньне, поруч зь дзяржаўнаю, права прыватнай уласнасьці на зямлю. Бяз гэтага права няма й ня можа быць ані эканамічнай свабоды, ані свабоднай і прадукцыйнай сялянскай працы, ані гарантыяў дэмакратыі.

Апазыцыя БНФ даўно распрацавала і прадставіла ў Вярхоўны Савет адпаведны законапраект. Беларускі Народны Фронт выступае за прыняцьце абедзьвюх формаў уласнасьці на зямлю, прадастаўленьня рэальнай магчымасьці выхаду з калгасаў дзеля самастойнага гаспадараньня, права набываць надзелы дзеля апрацоўкі зямлі ўсім жадаючым.

# ДЗІЦЯЧЫ ФОНД ДУХОЎНАГА І ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА АДРАДЖЭНЬНЯ «САКАВІК»

У Менску ў красавіку сёлета заснаваны фонд для стымуляваньня інтэлектуальнага і фізычнага разьвіцьця беларускіх дзяцей. У супрацоўніцтве са шпіталямі, лекарамі і сірочнымі асяродкамі Фонд намагаецца ўстанавіць праблемы й патрэбы кожнага дзіцяці ды знайсьці сродкі для разьвязаньня праблемы.

У сувязі з эканамічнымі цяжкасьцямі і чарнобыльскай катастрофай Фонд зварачаецца да ўсіх людзей добрае волі з спросьбай аб дапамозе. Кіраўніцтва Фонду будзе ўдзячнае за ўсякае спрыяньне справе ўзгадоўваньня і духова-інтэлектуальнага мацаваньня маладога пакаленьня беларусаў.

Старшыня Дзіцячага Фонду Адраджэньня «Сакавік» — ведамая сваёй ахвярнасьцяй грамадзкая дзеячка сп-ня Марыя Міцкевіч.

Адрас: Дзіцячы Фонд «Сакавік», 220012 Менск, вул. Сурганава, 13А-2. Тэл.: (0172) 394-480; факс: (0172) 716-574.

# ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА

*(Заканчэньне; пачатак гл. у папярэднім нумары)*

У 1839 годзе царкоўная Берасьцейская вунія была скасавана. Скасавалі яе самі вуніяцкія япіскапы на царкоўным саборы ў Полацку, а менавіта: япіскап літоўскі Язэп Сямашка, япіскап беларускі Васіль Лужынскі й вікарны япіскап берасьцейскі Антоні Зубко. На гэтым-жа саборы была вынесена пастанова аб аб'еднаньні Грэка-вуніяцкай Царквы з Расейскай Праваслаўнай Царквой. Вернікі Вуніяцкай Царквы, якія не жадалі гэтага аб'еднаньня, каб пазьбегчы яго, перайшлі ў лацінскі абрад і гэтым значна павялічылі колькасьць рыма-каталікоў на Беларусі. Вунія захавалася толькі ў Галіччыне, даўнай Чырвонай Русі, якая пасьля падзелу Рэчыпаспалітай была тады пад Аўстрыяй.

На землях летувіска-беларускіх былога Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), якія пасьля трэйцяга падзелу Рэчыпаспалітай апынуліся пад Расеяй, польская каталіцкая гіерархія надалей палянізавала беларусаў і летувісаў. Язэп Пілсудскі яшчэ перад Першай сусьветнай вайной напісаў артыкул «Аб польскім імпэрыялізьме», у якім сьцьвярджаў, што хоць Польшча сама паняволеная і як дзяржава не існуе, але існуе польскі імпэрыялізм. Ён пісаў, што ў Літве (Пілсудскі называў Літвой усе землі былога ВКЛ) каталіцкія япіскапскія курыі (епархіяльныя ўправы), якімі кіруюць япіскапы-палякі, сьведама й упорыста назначаюць на парафіі ксяндзоў-палякоў, а не ліцьвіноў. Гэткую палітыку япіскапаў-палякоў ён тады станоўка асуджаў. Артыкул Пілсудскага я ў свой час прачытаў у вялікім зборніку «Польская дэмакратычная думка на працягу стагодзьдзяў».

У 20-гадовым міжваенным пэрыядзе палянізацыйная акцыя польскіх касьцельных і цывільных уладаў была нічым не абмежаваная й агрэсыўная. Былі прасьледаваньня, як я ўжо вышэй сказаў, нешматлікія ксяндзы-беларусы, якія былі высланыя, каб не маглі весьці душпастырскай працы сярод свайго народу, на парафіі ў этнаграфічнай Польшчы. (Такая самая палітыка была адносна настаўнікаў-беларусаў польскіх школаў). З каталіцкага манастыра беларускіх айцоў Марыянаў у Друі польскія ўлады высялілі ўсіх сьвятароў і братоў. Сьвятары былі высланыя, а хутчэй сасланыя у 1938 годзе на місіянерскую працу аж у Маньчжурыю. Ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, пробашча ў Жодзішках у Вялейскім павеце, польскія адміністрацыйныя ўлады пасадзілі ў турму на Макатове ў Варшаве толькі за тое, што гаварыў казані й вёў душпастырскую працу па-беларуску. Беларусаў-праваслаўных польскія цывільныя й вайсковыя ўлады намагаліся сілай навярнуць на каталіцызм, але калі ім гэта не ўдавалася, дык тады пачалі палянізаваць праваслаўную Царкву. Адначасна польскае войска й паліцыя палілі й разбуралі цэрквы. Ведамы польскі публіцыст Станіслаў Мацкевіч (Цат) з абурэньнем асуджаў ганебную палянізацыйную акцыю ген. Каспржыцкага й віленскага ваяводы Бацянскага. Ізноў-жа, каб не быць абвінавачаным у галаслоўнасьці, зацытую зь ягонай, выдадзенай у Лёндане ў 1941 годзе кнігі «Гісторыя Польшчы ад 11 лістапада 1918 г. да 17 верасьня 1939 г.» (разьдзел «Людзі, якія не дарасьлі, каб кіраваць», бач. 312-313) некалькі наступных сказаў: «Ляяльнасьць праваслаўнай царквы (аўтар мае на ўвазе толькі духавенства — У. Б.) была настолькі вялікай і настолькі шчырай, што толькі цуд мог праваслаўнае духавенства з гэтай дарогі зьвярнуць. Гэтым цудам была дурнота нашых уладароў, сапраўды нязвычайна. Трэба тут зазначыць, што царкоўнай палітыкай нямаведама чаму пачало кіраваць міністэрства вайсковых справаў (...) Пачалі ад палянізацыі літургічнай мовы (...) Але — пісаць мне аб гэтым цяжка — заменай літургіі не абмежаваліся, войска пачало прымусова наварачваць праваслаўных на каталіцызм і нават паліць некаторыя цэрквы, залічаныя да лішніх. Гэтыя дзікія, дурныя й нікчэмныя выбрыкі спрычыніліся нябывалую шкоду нашай дзяржаве».

У сёньняшнім часе гісторыя, на вялікі жаль, паўтараецца. Апошнімі гадамі на беларускай Беласточчыне «невядомыя злачынцы» спалілі 6 цэркваў. Папа Ян Павал II, які ў часе першага свайго візыту ў Польшчы падняў дух польскага народу й гэтым у вялікай меры спрычыніўся да ўпадку бязбожнага камунізму; які ў часе аднаго зь візытаў наведаў праваслаўны сабор у Беластоку; які штагоду ў часе сьвятаў Раства Хрыстовага й Вялікадня, вітаючы беларусаў пасьля ўрачыстай Літургіі ў базыліцы Сьв. Пятра, называе іх «дарагімі» («Дарагія беларусы»), назначыў для іх трох япіскапаў-палякоў і аніводнага беларуса. Ці гэта — прыязны жэст у бок беларускіх каталікоў і Беларусі наагул? Беларускія патрыёты пасьля распаду савецкай (фактычна, расейскай) імпэрыі зла стараюцца няшчасную Беларусь дэрусыфікаваць, а Папа Рымскі намагаецца яе спалянізаваць, прынамся часткова. Чаму Каталіцкая Царква на Беларусі ня можа мець уласнага аблічча, беларускага, а вымушана абавязкава мець чужое — польскае? Вялікі польскі паэт Юльюш Славацкі марыў аб славянскім па́пу, бо бачыў, мякка кажучы, нязычлівыя адносіны Ватыкану да польскіх патрыётаў, якія змагаліся з царскай Расеяй. Ён тады выгукнуў: «Польшча! Твая згуба ў Рыме». І напісаў ведамы верш «Славянскі Папа». А сёньня, калі зьдзейсьнілася мара паэта, калі ўпяршыню ў гісторыі на папскім троне сядзіць славянскі папа, Беларусь горка адчувае на сабе палянізацыйную акцыю Ватыкану. Пішу аб гэтым з болем у сэрцы, бо такая, на вялікі жаль, ёсьць сумная рэчаіснасьць. У сваім часе папа Павал VI меў намер высьвяціць беларуса, ксяндза пралата Ўладыслава Чарняўскага, на япіскапа для Беларусі і з гэтай мэтай заклікаў яго ў Рым, але польскія інтрыгі, як казаў сам пралат Чарняўскі, да высьвячэньня не дапусьцілі. Запратэставаў быў польскі кардынал Вышынскі. Ён адкрыта сказаў, што лепш няхай зусім не будзе на Беларусі ніякага каталіцкага япіскапа, чымся мае ім быць беларус.

На заканчэньне хачу зарэагаваць на нахабныя, грубіянскія брэдні ў чацьвертым нумары «польскага часапісу не толькі для палякаў» пад назвай «Прызмат», які выйшаў у Менску. «За каталіцкі касьцёл на Беларусі, — піша гэта газэцінка, — змагаліся галоўным чынам палякі, а цяпер раптам беларусы хочуць яго ад нас адабраць, дамагаючыся, каб імшы былі толькі па-беларуску, — сказаў справядліва адзін ксёндз. Ім зусім не перашкаджае тое, што ў цэрквах ідуць набажэнствы па-руску, а толькі ў нашыя справы сунуць свой нос».

Відавочна «Прызмат» лічыць, што ўсе беларусы — праваслаўныя, не ўсьведамляючы таго факту, што два мільёны беларусаў — гэта каталікі. Вось-жа, па-першае, трэба сказаць, што беларусы ня «сунуць свой нос» у польскія справы, але згодна з другім Ватыканскім Саборам *справядліва* дамагаюцца ўвядзеньня беларускай мовы ў каталіцкіх касьцёлах на Беларусі. Мясцовыя й прыезныя з Польшчы ксяндзы вядуць душпастырскую працу ў польскай мове, якой вернікі ня толькі не ведаюць, але нават не разумеюць, асабліва маладое пакаленьне. Пішуць мне пра гэта мае блізкія знаёмыя каталікі зь Беларусі. (Гэта мне прыпамінае, як у заходняй частцы Польшчы пад Прусіяй, за часамі Бісмарка, немцы германізавалі палякоў, прымушаючы польскіх дзяцей у школах гаварыць пацеры (малітвы) па-нямецку. А ці-ж не падобнае робяць польскія ксяндзы зь беларускімі дзяцьмі?) Падругое, няпраўда, што «ў цэрквах набажэнствы ідуць па-руску», як памылкова піша «Прызмат», што сьветчыць аб поўным няведаньні аўтара. У праваслаўных цэрквах на Беларусі, падобна як і ў іншых славянскіх краінах, усе багаслужбы спрадвечна адпраўляюцца ў царкоўнаславянскай, сёньня ўжо мёртвай, як лаціна, мове.

Яшчэ ня так даўно ў гэтай мове адпраўляліся багаслужбы і ў вуніяцкіх (грэка-каталіцкіх) цэрквах на Украіне (у Галічыне) і на чужыне. Сёньня беларускае праваслаўнае духавенства на бацькаўшчыне й на чужыне паступова пераходзіць на жывую, родную беларускую мову. А польскае каталіцкае духавенства, як і ў далёкай, і нятолькі далёкай, мінуўшчыне, упорыста намагаецца беларусаў-каталікоў спалянізаваць. Гісторыя, на вялікі жаль, паўтараецца. Дык трэба ратаваць два мільёны беларусаў-каталікоў ад палянізацыі. Нам нельга іх страціць. Польскую каталіцкую экспансію трэба спыніць. Няўжо беларускі ўрад гэтага ня зробіць? Трэба змагацца, каб для нас, беларусаў, дрэнная гісторыя перастала паўтарацца.

**Уладзімер Брылеўскі**

# БЕЛАРУСКІ АЎТАР УВА ЎМОВАХ НЕБЕЛАРУСКАСЬЦІ

Падчас маіх адведзінаў Бацькаўшчыны беларускія паэты і пісьменьнікі падаравалі мне каля трох дзесяткаў сваіх кнігаў, пераважна з аўтографамі. Лішне казаць тут, якая я гэта была радасьць для мяне! Гэта было знакам яднаньня, зразуменьня і нат братэрства. У маёй бібліятэчцы гэтыя кнігі, хачу сказаць, грэюць мяне і нібы гавораць. Сярод аўтараў падараваных мне кнігаў — добра вядомыя нашыя творцы: І. Чыгрынаў, Я. Брыль, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, А. Кудравец, В. Хомчанка, У. Арлоў, Я. Сіпакоў, Г. Бураўкін, С. Грахоўскі, Р. Баравікова. Хоць гэтыя імёны і ня былі для мяне, эмігранта, нейкай неспадзеўкай (тое-сёе як пералічаных, так і іншых аўтараў я ўжо чытаў і раней), ды ўсё-ж далейшае азнаямленьне з творамі маіх дарцаў было ў нейкім сэнсе адкрыцьцём, яно пашырыла мае веды пра беларускую літаратуру, узбагаціла мяне духоўна.

Але не пра згаданых аўтараў тут гаворка. Сярод падараваных мне кнігаў — таўсьцейшых і зусім тонейкіх — гэта пераважна кнігі нашых новых, маладых аўтараў. Зь іхнага дазволу пералічу іх тут наўгад: В. Куртаніч, В. Аколава, А. Сыс, М. Мятліцкі, У. Рубанаў, В. Шніп, Г. Багданава, Л. Пранчак, С. Сокалаў-Воюш, В. Жуковіч, І. Чыгрын, У. Дзюба, М. Скобла, В. Грышановіч.

Што мяне, пабочнага чытача, найбольш уражае, гэта — неадольная *прага творчасьці*, паскоранае жаданьне зьдзейсьніцца. І гэта можна вытлумачыць ня толькі няўрымсьлівасьцяй маладых, а й новымі паўсталымі было магчымасьцямі *свабоднай* творчасьці, а таксама ўсьведамленьнем патрэбы *новага слова*, новых мэтадаў у літаратуры, і не ў апошнюю чаргу — жаданьнем вярнуцца да нацыянальных вытокаў. Гэтак паўсталі, думаецца мне, нашыя авангардысты, нашыя «тутэйшыя», пералічаныя тут і не пералічаныя.

Але я турбуюся за гэты авангард. Мяне турбуе доля гэтых новых творцаў, бо-ж паўсталыя было магчымасьці свабоднага творства абярнуліся апошнімі часамі па сутнасьці немагчымасьцяй творчасьці ўва ўмовах — страшна сказаць — суцэльнай небеларускасьці. Пісьменьнік ня можа існаваць як пісьменьнік, калі мова, на якой ён піша, не ў пашане, або — што яшчэ горш — калі на ёй не гавораць. Пры такім палажэньні міжволі паўстае пытаньне неабходнасьці пісьменьніка, яго патрэбы для грамадзтва. Такое пытаньне адкрыта не стаўляецца, пра яго нат страшна падумаць, але яно рэальнае і ў сваёй сутнасьці пагрозьлівае ня толькі для кожнага паасобку, але й для нашай літаратуры, як гэткай. Калі прадстаўнікі старэйшага пакаленьня так ці інакш увайшлі ў нашу літаратуру, дык гэтая ўваходзіны ў беларускую літаратуру маладога аўтара страшна ўскладняюцца ня толькі сёньняшняй неўладкаванасьцяй, а — і найбольш — усё той-жа небеларускасьцяй, нашым беларускім немаўленьнем. Адсюль — неахвота купіць кніжку беларускага аўтара, адсюль — ганебна нізкі тыраж беларускай кніжкі. Парадаксальна — тыраж кніжкі беларускага літаратара-эмігранта, выдадзенай замяжой, часам вышэйшы за тыраж кніжкі айчыннага паэта, выдадзенай у Рэспубліцы Беларусь. Вось да чаго вядзе наша немаўленьне, наша небеларускасьць. Ці можа тады беларускі аўтар існаваць як творца, дый існаваць наогул. А малады-ж аўтар пачаў свой сьпеў зь імём сваёй маці-Беларусі на вуснах.

*(Працяг на 5-й ст.)*

### БЕЛАРУСКАЕ Ў ПОЛЬСКІМ «ЛІТАРАТУРНЫМ ЧАСАПІСЕ»

Пры дапамозе Таварыства «Памост» і польскага Міністэрства Культуры й Мастацтва выйшаў у Варшаве № 1 (5) публікацыі Magazyn Literacki (Літаратурны часапіс) (104 ст.; тыраж: 1000 экз.). Рэдакцыя зазначае, што «ў гэтым нумары нашага выданьня найбольш месца мы прысьвяцілі літаратуры нацыянальных меншасьцяў. Не ахопліваем усіх: пішам перш-наперш пра ўкраінцаў, беларусаў і летувісаў».

Колькасьць нацыянальных меншыняў у Польшчы няведамая, піша ў часапісе Тадэвуш Анджэй Альшанскі — летувісаў, паводля яго, налічваецца 25-50 тысячаў, беларусаў — 200-300 тыс., украінцаў — «праўдападобна каля 300-400 тыс.».

У нумары зьмешчана гутарка зь пісьменьнікам Сакратам Яновічам; інфармацыя пра Беларускае Дэмакратычнае Аб'еднаньне; польскія пераклады вершаў Яна Чыквіна, Зосі Сачко, Надзеі Артымовіч, Уладзіміра Гайдука; гутарка з праф. Аляксандрам Баршчэўскім.

Цікавыя іншыя матар'ялы гэтага добра афармленага ілюстраванага выданьня, якое можна выпісаць, пішучы на адрас: Magazyn Literacki, Warszawa 86, skrytka pocztowa 86, Poland.

# БЕЛАРУСКІ СКАЎТЫНГ У НЯМЕЧЧЫНЕ

**(1945-1949 гг.)**

**(Успаміны)**

**Лягеры ДП Рэгенсбург — Міхельсдорф — Віндышбэргердорф — Розэнгайм.**

Я прыехала ў Рэгенсбург у Беларускі лягер ДП (для «перамешчаных асобаў», інакш кажучы — палітычных уцекачоў), калі лягер яшчэ ня быў добра зарганізаваны — у кастрычніку 1945 году. Ужо тады існаваў Беларускі Камітэт, старшынём якога быў сп. Міхась Міцкевіч, а культурна-асьветным рэфэрэнтам — сп. Хведар Шыбут. Працавала і Беларуская пачатковая школа (4 клясы) з настаўнікам сп. Сьцяпанам Кірылікам. Сп. Шыбут з дапамогай сп. Вітаўта Рамука рабілі захады перад амэрыканскімі акупацыйнымі ўладамі, каб адкрыць беларускую гімназію.

Там я вучылася ў 7-й і 8-й клясах Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы і была кіраўнічкай дзявоцкай скаўцкай дружыны «Пралескі» (ад 7 да 11 гадоў векам). Да скаўтынгу належалі ўсе вучні пачаткавае школы (4 клясы) і гімназіі. Галоўным кіраўніком Беларускага скаўтынгу ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны быў згадваны ўжо Аляксандар Бута, а апякуном — ген. Францішак Кушаль. Галоўным-жа кіраўніком Беларускага скаўтынгу ўва ўсіх трох акупацыйных зонах — амэрыканскай, ангельскай і францускай — быў сп. Вацлаў Пануцэвіч, а галоўнай кіраўнічкай скаўтак — сп-ня Валянтына Жукоўская.

Беларускія скаўты ў Міхельсдорфе бралі ўдзел у розных гуртках : літаратурным, драматычным, харавым (сьвецкім і царкоўным), танцавальным і фізкультурным.



*Скаўцкая дружына «Голуб» у Міхельсдорфе ў 1946 годзе. Юзэфа Найдзюк — пятая зьлева.*

Была ў нас маленькая танцавальная група ды невялікі аддзел Беларускага скаўтынгу, юнакоў і юначак, пад кіраўніцтвам спсп. Аляксандра Сасукевіча і Сьцяпана Кірыліка.

Калі заснавалася Беларуская Гімназія, пачаліся выезды на вуглякопную працу ў Бэльгію. Сп. Сасукевіч паехаў у Бэльгію, а ягонае месца галоўнага кіраўніка Беларускіх скаўтаў заняў сп. Аляксандар Бута.

Нам, беларусам, было спачатку цяжка ўвайсьці ў Міжнародны скаўтынг, бо мы ня мелі свайго статуту з Бацькаўшчыны. Скаўцкія арганізацыі ёсьць у кожным народзе, толькі што яны па-рознаму завуцца: у нас і расейцаў — скаўтынг, у палякоў — гарцэрства, у ўкраінцаў — пласт і г.д. Перад Другой сусьветнай вайной у Заходняй Беларусі былі беларускія скаўцкія арганізацыі ў Вільні і Нясьвіжы.

Нам у Рэгенсбургу давялося пачынаць з самага асноўнага — апрацаваньня свайго статуту. Мы гэта зрабілі, узяўшы за ўзор статуты ўкраінскі ды іншых нацыянальнасьцяў. Стаўшы на ногі, наша скаўцкая арганізацыя спраўлялася ў міжнацыянальных спаборніцтвах ня горш за іншых.

У Рэгенсбургу я была дружыноваю, кіруючы групай юначак, вучаніц малодшых клясаў Беларускай Гімназіі. На скаўцкіх зборках мы праходзілі лекцыі на розныя тэмы: гістарычныя, геаграфічныя, культурныя. Бязумоўна, знаёміліся са скаўцкімі прынцыпамі й правіламі. Мае юначкі былі вельмі разьвітыя й разумныя дзяўчаткі пад кожным поглядам. Іхныя прозьвішчы: Ала Орса, Юля Каханоўская, Людміла Харытончык, Лёля Лапіцкая, Лёля Лічко, Лёля Трысмакова, Люба Шыбут і Валя Вайцяхоўская.

У ліпені 1946 г. наш Беларускі лягер ДП быў перавезены ўладамі УНРРА ў вёску Міхельсдорф каля мястэчка Кам недалёка ад чэхаславацкай граніцы.

У 1946 годзе вучні 8-й клясы Беларускай Гімназіі атрымалі атэстаты сьпеласьці. Зь іх, аднак, ніхто не належаў да скаўтынгу. Інакш было зь іхным наступнікамі.

Увосень 1946 г. я была ўжо ў 8-й клясе гімназіі і мела дружыну дзяўчат «Голуб» у наступным складзе: Ніна і Надзя Дудзік, Адрыяна (Ада) Кабяка, Ліда Карпік, Вера Блоцкая, Вера Касавец, Вольга Еўстафіева, Мальвіна Бычкоўская, Надзя Русак, Насьця Карчэня. З гэтай групай я працавала да чэрвеня 1947 году. Ад ліпеня таго-ж году я, Туся Кулікoвіч (дачка кампазытара Міколы Кулікoвіча) і сп-ня Натальля Арсеньнева працавалі ў дзіцячай санаторыі ДП у г. Ляйме.

На пачатку студзеня 1948 г. некаторыя абсальвэнты другога выпуску Беларускай Гімназіі ды іншыя асобы, у тым ліку Аляксандар Бута (11 хлапцоў), выехалі на працу ў шахтах Ангельшчыны. Галоўным кіраўніком скаўтаў стаўся сп. Міхась Белямук.

У студзені 1949 г., пасьля 12-месячнага курсу моваў у Рэгенсбургу, я прыехала ў лягер ДП Віндышбэргердорф (каля таго-ж мястэчка Кам, недалёка ад Міхельсдорфу). Там ізноў займалася зь дзяўчаткамі дружыны «Пралескі». Працавала там таксама і Беларуская Гімназія імя Я. Купалы, былі спартовыя гурткі, хор.

У чэрвені 1949 г. наш лягер перавезьлі ў Розэнгайм. У лягеры тым, апрача нас, беларусаў, былі іншыя нацыянальнасьці, але нас было найбольш, дык уся лягерная адміністрацыя была ў беларускіх руках. Я працавала там у дзіцячым садочку і далей займалася скаўцкай дружынай «Пралескі». Скаўцкім кіраўніком у нас быў сп. Янка Раковіч, а апякуном — далей ген. Ф. Кушаль. Мы прабылі ў Розэнгайме да лета 1950 году. Гэта быў ужо час разьезду. Людзі пачалі перабірацца на сталае пасяленьне ў ЗША, Канаду, Аўстралію ды іншыя краіны. Тых, хто па нейкіх прычынах ня мог эміграваць, перавезьлі ў лягер ДП Шляйсгайм пад Мюнхэнам. Гэта быў мяшаны лягер: было ў ім найбольш расейцаў, украінцаў і палякоў, а пасьля прыбылі беларусы, сэрбы ды інш.

У Шляйсгайме беларускай скаўцкай арганізацыі ня было, бо наша грамада была малая, а моладзі амаль зусім ня было. Але ўсе тыя, што прайшлі праз беларускі скаўтынг, скарысталі зь яго для свайго агульнага і нацыянальнага разьвіцьця. А шмат хто зь іх пасьля стаўся вартасным працаўніком свае грамады, плённым удзельнікам беларускага культурна- й палітычна-грамадзкага жыцьця. **Юзэфа Найдзюк**

**Ёсіф Васілеўскі**

### ПРЫЗНАНЬЕ

**Доктару Марыі Дэмковіч (ЗША)**

Нібы Хрыста ратункавы прыход
Часінаю чарнобыльскага болю
Быў ваш прылёт, сардэчны Ваш
прылёт
І міласэрны ўдзел у нашай долі.
Патрэбна дзіўны талент мець,
відаць,
Каб на зямлі, якую атам зрушыў,
Дарослым і дзяцям руку падаць
І лекаваць пакутніцкія душы.
О дзякуй Вам! Вы з намі ў гэты час
Як і шаноўны сябра, доктар Фолі.
Я йшчэ аддзячу новай кніжкай Вас,
Калі на тое стане Божай волі.

*(Вольны пераказ з расейскай)*

«Набат» № 9(93), Менск
Красавік 1993

# БЕЛАРУСКІ АЎТАР...

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

Ён прыйшоў у гэты сьвет са *сваім* словам:

Я — надрукаваў верш,
Сказаў людзям
Слова. (Іван Чыгрын)

А да слова гэтага мы застаемся глухімі, а то й ставімся да свайго, беларускага слова, варожа. Сумна. Сорамна.

Перабудовачны час парадзіў цэлую плеяду беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, сярод іх ёсьць бясспрэчна людзі абдораныя, таленавітыя, але яны застаюцца нейкімі пасынкамі ў сваёй роднай Айчыне, нейкімі лішнімі людзьмі, пераважна не заўважанымі ня толькі чытачом, але і нашай крытыкай. Адсюль у маладога аўтара расчараваньне і няўпэўненасьць:

За век свой недаўгі
ня здолею, магчыма,
сплаціць я ўсе даўгі
табе, мая Айчына (М. Скобла)

Я гартаю й гартаю старонкі падараваных мне кнігаў і дзіўлюся, радуюся, зайздрошчы трапнаму эпітэту, няўжытаму нідзе новаму слову, вобразу, рыфме, думцы — усяму таму, што робіць паэта паэтам, улаўліваю за ўсім гэтым асобу, постаць, жывога чалавека, бо-ж, як сказаў некалі Гэрман Гэсэ, «узьдзеяньне паэт робіць на нас не сваёй якой-небудзь асобнай прыкметай — тэхнікай, густам, разумнасьцяй, а тым, зь якой сілай і дасканаласьцяй ён выказвае адметнасьць свайго характару».

Вось гэтая «адметнасьць характару» можа якнайлепш характарызуе пакаленьне беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, народжаных перабудовай.

Я салютую вам з майго далёка!

Глен-Коў, ЗША
1993

**Масей Сяднёў**

# 75-ГОДЗЬДЗЕ БНР

## СЫДНЭЙ, АЎСТРАЛІЯ

Беларусы Сыднэю і аколіц урачыста адзначылі 75-я ўгодкі дзяржаўнасьці Беларусі ў нядзелю 28 сакавіка. Пачалося сьвяткаваньне багаслужбай у гомэбушскай праваслаўнай царкве. Пасьля літургіі а. Ігар адслужыў малебен за беларускі народ і сказаў прачулую пропаведзь. Добрая беларуская мова а. Ігара, прысутнасьць сьцягу ў паўнюсенькай царкве зрабілі ўрачысты эфэкт, а песьня «Магутны Божа» ўзрушыла прысутных, многім зь якіх спатрэбіліся хусьцінкі. Гэта першы раз што сыднэйцы пачулі наш рэлігійны гімн, і за цудоўнае выкананьне яго належыцца шчырая падзяка маэстра-рэгенту сп. Аўгену Падгайскаму і харыстам, бальшыня якіх не беларусы.

З царквы — у Беларускі Клюб, дзе даўным-даўно ня было столькі людзей. Гаспадаром давялося прынесьці з-пад паветкі ўсе крэслы, каб усіх пасадзіць.

Акадэмію адкрыў кароткім словам старшыня Клюбу М. Лужынскі. Прамаўлялі спсп. Латцееў, Зуй і новы кіраўнік беларускага радыё Вячаслаў Элькановіч. На рукі старшыні акадэміі было атрымана паўтара дзесятка лістоў і тэлеграм. Вельмі зьместоўны і цікавы ліст Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча зачытаў сп. Я. Гавенчык.

Дзевяцігадовая Оля Рыжэнка выклікала буру воплескаў, прадэклямаваўшы верш Алеся Гаруна «Ты мой брат, каго зваць беларусам».

Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну закончылася афіцыяльная частка гэтага незабыўнага дня.

На пачатку абеду а. Ігару і Міхасю Лужынскаму былі ўручаны падарункі ад беларускага грамадзтва, як прызнаньне даўгагадовай працы ў беларускім радыё Сыднэю. Айцец Ігар блаславіў ежу і пачалася прыемная бяседа, што трывала аж да змроку.

За багаты стол належыцца падзяка сп-ням О. Тумашэўскай, В. Марчэнка, З. Стукач, М. Юхневіч і наймалодшай новай гаспадыньцы Гэлі Рыжэнка. Шчыра папрацавалі Аляксандар Букановіч, Васіль Марчэнка і Валянтын Стукач — заплаці вам Божа.

Такой удачай быў гэты юбілейны дзень, што нецярпліва чакаецца наступная сустрэча. **М. Лужынскі**

## ДЗЕЦІ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў КАНАДЗЕ

Сто шэсьцьдзесят дзяцей з раёнаў Беларусі, забруджаных чарнобыльскай радыяцыяй, праведуць сёлета летні адпачынак у Канадзе, дзякуючы стараньням канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі (старшыня: сп-ня Івонка Сурвілла).

Першая група 14 дзяцей прыбыла ўжо на 10-тыднёвы побыт. Чакаецца яшчэ дзевяць гэткіх групаў, кожную зь якіх суправаджае адна дарослая асоба і якія будуць разьмешчаны ў розных мясцовасьцях Канады. Падборам дзяцей у Беларусі займаецца Чарнобыльскі фонд, узначальваны народным дэпутатам Генадзем Грушавым.

У канадзкім Фондзе Дапамогі, як сказалі «Беларусу» сп-ства Янка й Івонка Сурвіллы, працуе больш за чатырыста дабраахвотнікаў, якія зьбіраюць патрэбныя грашовыя сродкі на прыезд і ўтрыманьне дзяцей. Актывісты Фонду праводзяць сярод канадцаў розныя мерапрыёмствы і імпрэзы. Сп-ня Сурвілла часта выступае зь інфармацыяй пра Беларусь перад канадзкімі аўдыторыямі. Летась сп-ня Сурвілла дала 52 інтэрв'ю на тэму Чарнобыля і патрэбы дапамогі Беларусі.

*Ліст у Рэдакцыю*

## СКАЎЦКІЯ СПРАВЫ

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Беларуса»!

Піша вам кіраўнік Менскай Харугвы Вітаўта Аб'яднаньня Беларускіх Скаўтаў Вадзім Сугойдзь.

Наша Аб'яднаньне (АБС) створана ў 1990 г. і працягвае традыцыі беларускіх скаўтаў, якія былі да 1939 г. на Беларусі і пасьля вайны — на чужыне. У нас ёсьць і старыя скаўцкія кнігі і часопісы, праўда, ня так шмат.

Нас вельмі зацікавіў ваш артыкул у № 399 «За якую Беларусь ваюе Ўладыка Філарэт», у якім вы пішаце пра ліст Саюзу Скаўтаў Беларусі. Справа ў тым, што гэтая арганізацыя з самага пачатку была прарасейскай і камуністычнай, яе лідэр Косьцевіч лічыць, што займацца беларушчынай — значыць атупляць свае мазгі, а Кастусь Каліноўскі — гэта дзяржаўны бандыт, і г.д.

Таму мы паўсюдна вядзём барацьбу супраць іхняга ўплыву і ідэй. Ці не маглі-б вы выслаць нам ксэракс факсыміле ліста ССБ у № 405 «Вестника руководителя» ці ўвесь гэты часопіс. Ён нам спатрэбіцца, каб выкрыць сувязі ССБ з ОРЮР.

Мы таксама хацелі-б зьвярнуцца праз вашую газэту да беларускіх дзяцей і падлеткаў з замежжа і запрасіць іх у наш скаўцкі лягер, які мы праводзім падчас Першага зьезду ў межах Нарачанскага форуму з 6 па 16 ліпеня. У праграме лягеру — Купальле, вандроўкі па гістарычных мясьцінах, вывучэньне лекавых і карысных расьлінаў, курс па выжываньню.

Таксама мы прасілі-б адгукнуцца былых скаўтаў са Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў на Чужыне. Мы будзем удзячныя, калі яны напішуць нам аб гісторыі беларускага скаўтынгу на Беларусі і на чужыне.

Ці ёсьць цяпер дзіцячыя беларускія арганізацыі ў замежжы?

Да пабачэньня, з павагай —

**Сугойдзь Вадзім**

### *БЕЛАРУСКА-ГАЛЯНДЗКАЯ ШКОЛА БІЗНЭСУ*

Беларускі інстытут праблем культуры і Амстэрдамскі летні ўнівэрсытэт заключылі пагадненьне аб супрацоўніцтве. Будзе створана беларуска-галяндзкая школа мэнаджмэнту і культуры. Новая навучальная ўстанова дапаможа вырашаць Беларусі праблемы падрыхтоўкі спэцыялістаў. Кантакты грунтуюцца на базе раней падпісанага дагавору паміж Міністэрствамі культуры Беларусі і Галяндыі. (ВТ, 19.04.93,8)

### РАСЕЙСКА-БЕЛАРУСКІ ХІМІЧНЫ СЛОЎНІК

Працэс дэрусыфікацыі немагчымы без распрацоўваньня беларускае тэрміналёгіі ўва ўсіх галінах навукі ад арытмэтыкі да ядзернай фізыкі. Важны ўклад у гэтую справу зрабіла менскае Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, навуковая сэкцыя якога апрацавала «Расейска-беларускі хімічны слоўнік» (38 ст.). Укладальнікі: А. Глушко, А. Стасевіч і А. Бокун. У слоўніку больш за дзьве тысячы тэрмінаў. Калектыў укладальнікаў і Рада ЗБС выказалі шчырую падзяку народнаму дэпутату Ўладзімеру Новіку, сп. Адаму Палюховічу, прэзыдэнту фірмы «Дайнова», і сп. Вацлаву Багдановічу, прэзыдэнту фірмы «Беларусьтэхналёгія», а таксама сп. Міхасю Наўмовічу з Францыі, «без дапамогі якіх выданьне слоўніка было-б немагчымым».

### ФОНД ЯНА ПЯТРОЎСКАГА Ў МЕНСКУ

Як падало менскае радыё 8 красавіка сёлета, у Беларусі будзе праводзіць сваю дзейнасьць Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд Яна Пятроўскага. Жыхар штату Флярыда, сп. Пятроўскі, паводля менскага радыё, «зьбіраецца завяшчаць фонду пасьля сваёй сьмерці ўсю асабістую маёмасьць. Ян Пятроўскі мае намер таксама перадаць Рэспубліцы сваю бібліятэку і архіў». (ВТ, 13.04.93.10)

### *«НАВАГРАДСКІЯ ЧЫТАННІ»*

На Беларусі ажывае зацікаўленьне да рэгіянальнай гісторыі. У багатым сваёй мінуўшчынай Наваградку пазалетась і летась адбыліся навуковыя гістарычныя канфэрэнцыі. Даклады гэтых канфэрэнцыяў апублікаваныя сёлета ў двух зборніках «Наваградскія чытанні», што выйшлі пад грыфам аддзелу культуры Навагрudзкага гарвыканкому і Наваградзкага гісторыка-краязнаўчага музэю.

У рэзалюцыі леташняй канфэрэнцыі было пастаноўлена прасіць ад ураду дапамогі ў справе вяртаньня старажытнаму Наваградку ягонай гістарычнай і культурнай спадчыны; «распрацаваць мерапрыемствы па ўшанаваньні памяці Міндоўга ў Навагрудку»; заняцца рэстаўрацыяй Барысаглебскай царквы і касьцёла Сьвятога Міхаіла; а таксама «зрабіць чытанньні ў Навагрудку рэгулярнымі».

Думаецца, што ў гэтай годнай фінансавага падтрыманьня дзейнасьці навагрудзкіх руплўцаў маглі-б узяць чынны ўдзел і замежныя беларусы, асабліва навагрaдчане, якім рэдакцыя «Беларуса» гатовая служыць далейшай інфармацыяй.

### СТЫПЭНДЫІ ДЛЯ СПЭЦЫЯЛІЗАЦЫІ Ў ЗША

Некалькі амэрыканскіх адукацыйных асацыяцыяў пры падтрымцы з боку Інфармацыйнага Агенцтва ЗША прадбачаць асыгнаваць каля 140 стыпэндыяў студэнтам Арменіі, Беларусі, Узбэкістану, Расеі й г.д. на 1993-94 навучальны год.

Каб магчы скарыстаць з гэтых стыпэндыяў, аднак, трэба быць прынятым у адну з амэрыканскіх вышэйшых навучальных установаў.

### НАБЫВАНЬНЕ МЕНСКІХ ВЫДАНЬНЯЎ

Выдавецтва East View займаецца выпіскай кніжак і падпіскай на пэрыядычныя выданьні зь дзяржаваў былога СССР, у тым ліку зь Беларусі. Кніжкі, газэты, часапісы, карты — усё можна набыць праз гэтую фірму пры мінімальным тэрміне на перасылку. Цэны, праўда, ня зусім мінімальныя. Прыкладам, гадавая падпіска на «Літаратуру і Мастацтва» — 129,95 дал., на «Народную газету» — 299,95 дал. Затое пасярэднік гарантуе хуткае задавальненьне патрэбы. Трэба ўлічваць, аднак, што камунікацыя паміж фірмай і Менскам ідзе праз Маскву, празь якую зь Менску ідуць і ўсе высыланыя публікацыі. Калі каго цікавіць гэты шлях набыцьця кніжак і публікацыяў, тэлефануйце на дармовы нумар: 800-477-1005.

### ДА ЎВАГІ ФАТОГРАФАЎ

Дасьледніцкі аддзел Кангрэсавай Бібліятэкі ў Вашынгтоне рыхтуе новую сэрыю падручнікаў пра рэспублікі былога СССР, у тым ліку пра Беларусь. Калі хто мае цікавыя фатаграфіі або слайды (дыяпазытывы) (якія па выкарыстаньні будуць вернуты), зварачайцеся да Helen Fedor, tel.: (202) 245-5229

## БЕЛАРУСАВЕДА НА МІЖНАРОДНЫХ КАНФЭРЭНЦЫЯХ

**Нью-Ёрк**

29 траўня ў Гантэрскім Каледжы ў Мангатэне адбылася канфэрэнцыя, арганізаваная Польскім Навуковым Інстытутам Амэрыкі, на якой адна з сэсіяў была прысьвечана тэме «Польская дзяржава сёньня і ейныя бліжэйшыя ўсходнія суседзі — Беларусь і Ўкраіна». У працы канфэрэнцыі ўзяў удзел др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. У сваім дакладзе др. Кіпель, аналізуючы гістарычныя дачыненьні паміж Польшчай і Беларусьсю, падкрэсьліў, што сёньняшняя дзейнасьць польскага Каталіцкага Касьцёлу ды трактаваньне беларускае мяншыні ў Польшчы не даюць аптымізму для будучых спакойных беларуска-польскіх дачыненьняў.

Дакладчыку запярэчыў генэральны консуль Рэспублікі Польшча ў ЗША, Ежы Сурдыкоўскі. Зазначыўшы, што ён у прынцыпе не згаджаецца з дакладчыкам у паглядах на Каталіцкі Касьцёл, сп. Сурдыкоўскі катэгарычна запярэчыў цьверджаньням др. Кіпеля аб тым, што стаўленньне да беларускай мяншыні ў Польшчы нечым розьніцца ад стаўленьня да рэшты грамадзтва. Заява консуля выклікала вострую дыскусію, у якой шмат прысутных прадстаўнікоў акадэмічнага сьвету прывялі довады на карысьць беларускага дакладчыка.

**Атава, Канада**

У праграме штагодняй канфэрэнцыі Асацыяцыі Канадзкіх Славістаў, якая прайшла ў сталіцы Канады Атаве 4-6 чэрвеня сёлета, адбыліся дзьве беларусаведныя сэсіі: «Беларуская культура» і «Сучасная Беларусь». У першай сэсіі, якую вялі праф. Іван Яворскі, а пасьля — праф. Зіна Гімпелевіч, былі прачытаныя даклады: Івонка Сурвілла (Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва) — «Візуальнае мастацтва ў сучаснай Беларусі» і праф. Зіна Гімпелевіч (Унівэрсытэт у Ватэрлё) — «Агляд сучаснае беларускае літаратуры». З дакладамі ў другой сэсіі (на якой старшынявала праф. Гімпелевіч) выступілі: др. Вітаўт Кіпель (БІНіМ) — «Новыя досьледы аб беларускай эміграцыі ў Рэспубліцы Беларусь», праф. Томас Бэрд (Квінскі Каледж Ньюёркскага Гарадзкога Ў-ту) — «Розныя юрысдыкцыі беларускага праваслаўя ў Беларусі, Канадзе і Злучаных Штатах»; Зора Кіпель (БІНіМ) — «Сучасны стан кніжных выдавецтваў і бібліятэкаў у Беларусі». Др. Янка Запруднік (БІНіМ) прачытаў даклад на тэму «Ваенны аспэкт беларуска-расейскіх дычыненьняў» на сэсіі, прысьвечанай расейска-украінска-беларускім дачыненьням. На гэтай сэсі прачытаў даклад і праф. Дэвід Марплс (Унівэрсытэт Альбэрты), які гаварыў пра складанае палажэньне з энэргетыкай на Ўкраіне і ў Беларусі.

### ЭНЭРГЕТЫЧНАЯ ПРАБЛЕМА — ГАЛОЎНАЯ

29 траўня ў Менску адбыліся перамовы старшыні БНФ «Адраджэньне» Зянона Пазьняка, старшыні Народнага Руху Ўкраіны Вячаслава Чарнавіла і старшыні летувіскай партыі «Саюз Айчыны» Вітаўтаса Ландзбергіса. Адной з найвайстрэйшых праблемаў посткамуністычных дзяржаў Беларусі, Украіны й Летувы было прызнана энэргетычную праблему. Вырашэньне яе мэтазгодна ня зьвязваць з эканомікай Расеі, крызіс у якой усё больш абвастраецца й паглыбляецца. Пастаноўлена правесьці ў Менску 14-15 ліпеня канфэрэнцыю (ці рабочую сустрэчу), на якую запрасіць экспэртаў і прадстаўнікоў дэмакратычных партый краін Балтыі, Беларусі, Украіны, Малдовы, магчыма — Польшчы, Чэхіі, Славакіі. Мяркуецца, што гэта будзе крок да рэальнага супрацоўніцтва ў кірунку вырашэньня агульнай энэргетычнай праблемы.

**BELARUSIAN REVIEW, Vol. 5, №. 1, Spring 1993**

У нумары (26 ст.): Ліст ад Прэзыдэнта Клінтана; Джоў Прайс — Беларусь і СНД; калектыўная бясьпека; Радыё «Свабода»; Дзень 25 Сакавіка ў Беларусі; Амэрыканская дапамога Беларусі (пералік праграмаў гуманітарнай, эканамічнай і тэхнічнай дапамогі); Арт Турэвіч — Беларусь падпісвае ўмову аб калектыўнай бясьпецы; Правы чалавека і дэмакратызацыя Беларусі (дакумэнтальны агляд); Прамова Шушкевіча ў Вярхоўным Савеце 4 красавіка 1993 г.; Алег Латышонак — Цьвярдыня Беларусь (урыўкі зь месячніка "Czasopis"); Я. Крэўскі — Кастусь Каліноўскі: антырасейскае паўстаньне 1863 году; Чарнобыль: сем гадоў пазьней; Сьвяткаваньне 75-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі; багатая хроніка; выпісы з друку; карта Амэрыканскага Геаграфічнага Таварыства з «Амэрыканскага геаграфічнага часапісу» (з назовамі па-беларуску); Уладзімір Новік — Палітычнае і эканамічнае паладжэньне на Беларусі; лісты ў рэдакцыю.

### *ШКАЛА ШАНСАЎ НА РЭФОРМУ*

У нававыдадзенай кнізе прафэсара Калюмбійскага Ўнівэрсытэту Аляксандра Мотыля пад заг. Dilemmas of Independence. Ukraine After Totalitarianism (Дылемы незалежнасьці. Украіна пасьля таталітарызму), што кагадзе выйшла ў ньюёркскім выдавецтве Рады па Замежных Дачыненьнях, зьмешчаная табліца: «Фактары, што абляргчаюць і што перашкаджаюць рэформе ў пост-камуністычных дзяржавах». У табліцы — 19 дзяржаваў былога СССР і Цэнтральнай Эўропы. Да фактараў гэткіх аўтар залічае: ступень таталітарызму, месцазнаходжаньне, аднароднасьць жыхарства, вялічыня жыхарства, геаграфічная прастора, адміністрацыйная аднароднасьць, здольнасьці эліты, эканамічны патэнцыял і міжнародная падтрымка.

Кожнаму фактару для кожнае дзяржавы аўтар даў адпаведны лікавы паказнік. Па ўсіх фактарах чым меншы лік, тым больш шансаў на ўдачу з рэформамі. Прыкладам, па фактары «ступень таталітарызму», усім рэспублікам былога СССР, за выняткам прыбалцкіх, дадзены найвышэйшы (найгоршы) лік — 10,0. Прыбалцкія рэспублікі ў гэтай катэгорыі маюць па 6,6. Найменшы фактар «ступень таталітарызму» ў Вэнгрыі й Польшчы — па 3,3.

Склаўшы ўсе лікавыя паказнікі па кожнай дзяржаве, дасьледнік устанавіў свайго роду шкалу шанасаў на правядзеньне рэформаў.

Найлепшыя, паводля шкалы, шансы мае Вэнгрыя (9,2), за ёй ідзе Польшча (10,5); далей: Чэхія (12,3), Славакія (27,2); за гэтымі ідуць прыбалты: Летува (29,4), Эстонія (31,1), Латвія (32,1); далей: Украіна (33,3), Беларусь (37,4) і на самым канцы — Казахстан (49,8) і Расея (54,6)

# ЯЗЭП ВАРОНКА Ў ЧЫКАГА




Давялося мне некалькі гадоў жыць у вялікім горадзе Чыкага. Здарылася гэта выпадкова. У 1961 г. перабраўся я туды з канадзкага гораду Таронта. Запрасілі мяне беларусы, якія, прыбыўшы ў Чыкага крышку раней, наладжвалі там сваё грамадзкае жыцьцё. Мяне запрасілі памагаць ім.

Чыкагскія беларусы купілі сабе будынак пад царкву, выпісалі з Францыі архімандрыта Фінкоўскага, каб узначаліў новапаўсталую парафію (зь ім пазьней мелі вялікі клопат, каб пазбыцца яго).

Чыкага колькі разоў наведваў Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, два разы прыяжджаў Старшыня БЦР Радаслаў Астроўскі. У Чыкага была адноўлена Беларуская Нацыянальная Рада, некалі створаная консулям Язэпам Варонкам для беларусаў-эмігрантаў з 1920-х і ранейшых гадоў. Чыкага ўвайшло нават у гісторыю Беларусі напісаную Язэпам Найдзюком у 1943 годзе.

На пачатку 1950-х гадоў яшчэ жыў Язэп Варонка (памёр у 1952 г.), і як мне расказвалі, ён вельмі цешыўся, калі сустракаўся з нацыянальна сьведамымі суродзічамі. Калі беларусы ладзілі ў 1952 годзе ўгодкі Акту 25 Сакавіка, Варонка, ужо старэнькі і хворы, быў запрошаны на ўрачыстасьць і ледзь вытрымаў ад хваляваньня, калі пабачыў такую сьвежую і палымяную незалежніцкую Ідэю, увасобленую ў людзях, што прывезьлі яе зь Беларусі.

На гэным сьвяткаваньні былі прысутнымі таксама Варонкавы сябры з 1918 году: сп. Адвард Будзька, ген. Дзямідаў, сябры Нацыянальнай Рады кс. Янка Тарасэвіч, сп. Чарапук-Змагар, новапрыбылыя сем'і Будзькаў, Пануцэвічаў, Мінкевічаў, Бяленіса, Новікаў, Брушкевіча, Панкевіча, Пунтуса і шмат іншых са старой і новай эміграцыі.

Прыехаўшы ў Чыкага, я адразу-ж паспрабаваў даведацца аб дзейнасьці пакойнага Я. Варонкі, бо яшчэ на Беларусі чытаў аб ім у Найдзюковай гісторыі «Беларусь учора і сяньня» і памятаў, якім дзейным быў Варонка падчас Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году, у Чэхаславаччыне, а пасьля — у ролі першага прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі ў ЗША. А за часамі Варонкі было ня тое што нашым часам. Эміграцыя 1920-х гадоў была амаль уся малаграматная, не называлася нават беларускай, дык хто там цікавіўся такім дзеячом, які прапагандаваў ідэю незалежнасьці Беларусі. Нават друкаваную ім газэту пісаў па-расейску, хоць і назваў сваю арганізацыю Беларускай Нацыянальнай Радай. Расейскія ўплывы дамінавалі скрозь: у рэестрацыі дакумэнтаў, у царкве, у мове землякоў, у «Взаимной помощи» «Страхового Общества», якое назваў незалежным, каб прывучыць сваіх суродзічаў да слова «незалежнасьць». Закупіў у мясцовай радыястанцыі гадзіну часу на перадачу вестак для сваіх людзей зь Беларусі, да якіх гаварыў таксама па-расейску, згадваючы часта Беларусь, беларусаў ды час ад часу падаючы нейкія беларускія песьні, у адной зь якіх паўтараўся покліч: «уставайце, браты, уставайце»... А нашыя людзі міжсобку гаварылі па-свойму, па-беларуску, як гэта можна пачуць сярод астаткаў зь іх і цяпер, у 1980 годзе. Расейскай мовай Варонка карыстаўся не дзеля расейскасьці, а каб дзяліцца весткамі ў мове, якая дайшла-б да ўсіх.

Я пазнаёміўся з жонкай Варонкі, якая пасьля сьмерці мужа працягвала радыяперадачы недзе да 1970 году. Вельмі была прыхільнай да беларусаў, хоць сама была польскага паходжаньня. Давялося і мне два разы выступаць у ейных перадачах: першы раз на ўгодкі 25 Сакавіка, другі — на ўгодкі сьмерці Язэпа Варонкі. Прасіла, каб я нічога не гаварыў з палітычнай прапаганды, бо, казала, калі аднаго разу запрасіла выступіць Міколу Абрамчыка, дык той гаварыў па-беларуску супраць акупацыі Беларусі маскоўскімі камуністамі, і «рускія» слухачы закідалі яе пісьмамі пратэсту.

Дзеля ейнае ветлівасьці мы з парафіі Сьв. Юрыя наладзілі раз урачыстую паніхіду над магілай сьв. пам. Варонкі. Пакрылі яе беларускім нацыянальным сьцягам, прапяялі «Сьпі пад курганам гэроя». Я сказаў некалькі слоў аб яго добрай славе між беларусаў і спачувальна падзякаваў самой жонцы ад імя ўсіх прысутных. Адна жанчына са старых эмігрантаў, якая прыглядалася да ўсяго гэтага, з дакорам выказала сваю думку, што нябожчык «был руским, а не беларусам». Што-ж, ёсьць і нашымі часамі беларусы, якія належаць да расейскіх парафіяў і брацтваў, ці польскіх, бо сваіх ня маюць. А ў Чыкага найбольш такіх зь Віленшчыны.

Быў я раз на агульным зьезьдзе страхавой арганізацыі. Дэбаты ўсе адбываліся па-ангельску. Адна дэлегатка з Дэтройту ўзялася дакараць, чаму сход не вядзецца па-расейску, а сама гаварыла па-беларуску. Сакратар адказаў ёй, што яны ўжо амэрыканцы і гавораць на сваёй мове, а калі каму не падабаецца, дык можа ехаць назад у Расею. Ці будзе так зь дзецьмі нас, эмігрантаў з 1950-х гадоў?

Таксама расказаў мне адзін блізкі сябра Язэпа Варонкі, як аднойчы прыехаў адзін расейскі манархіст з Парыжа і захацеў пагаварыць зь сябрамі «Страхового Общества». А паколькі ў гэтай вялікай арганізацыі ня было расейцаў, дык Варонка згадзіўся на просьбу гасьця і склікаў сход са сваіх сяброў «СО». Падчас сустрэчы Варонка сказаў колькі слоў, зазначыўшы, што амаль усе сябры «СО» зь Беларусі, і «Общество» трымаецца незалежна ад усякае расейскае палітыкі ды гэтую палітыку ўважае за варожую беларускай справе. Тады той госьць з гневам крытычна выказаўся пра Варонку: «Ну, это меня удивляет. Я много видел черных ворон, но белой — никогда». І так яго місія правалілася: беларусы далі яму знаць, хто яны і чаго хочуць, дзякуючы Варонкавай мудрасьці.

Пазнаёміўся я таксама з кумам М. Даркевічам — фатографам зь Беларусі, які расказаў мне, як іх сем'і ўвесь час жылі ў добрай прыязьні. Даркевіч завёз мяне на магілу Варонкі, ад чаго ў мяне зьявілася думка наладзіць над магілай успомненую паніхіду. Даркевіч сказаў, што нехта зьбіраўся паставіць над ёй большы помнік. Гэтак і я думаў, але што зробіш адзін без грамады. Такім чынам, помнік застаўся той самы, які ледзь-ледзь відзён між травы.

Колькі год я жыў у Чыкага, заўсёды спаміналі мы Варонку на ўгодкі 25 Сакавіка, але ў беларускай гістарыяграфіі вельмі мала вестак пра яго: хто ён такі і што зрабіў для Беларусі.

**А. Асіпчык**

## ПІСЬМЕНЬНІКІ-ЭМІГРАНТЫ Ў ШКОЛЬНЫМ ПАДРУЧНІКУ

Пісьменьнік Барыс Сачанка падрыхтаваў да друку творы беларускіх пісьменьнікаў-эмігрантаў. Выданьне разьлічана на школьнікаў і выйдзе пашыраным тыражом у «Школьнай сэрыі». Выдавецтва «Мастацкая літаратура» мяркуе выдаць кнігу яшчэ да пачатку гэтага школьнага году.

## АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

Выйшаў з друку другі том «Анталогіі беларускай паэзіі». Укладальнік тому — Алег Лойка, галоўны рэдактар — Рыгор Барадулін. У «Анталогію» ўведзеныя і творы трох беларускіх паэтаў-эмігрантаў — вершы Натальлі Арсеньневай, Масея Сяднёва і Алеся Салаўя.

## «ПОЛАЦАК» № 4(24), 1993

**Выданьне Беларускага Культурна-Асьветніцкага Цэнтру. Клііўленд, ЗША.**

На 64 старонках ілюстраванага нумару зьмест:

Васіль Пуцко — Жыровіцкая ікона Божае Маці; М. Белямук — Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў; П. Урбан — Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвінаў; М. Белямук — Беларускі Дом Амэрыкі (ілюстраваны рэпартаж з адкрыцьця пасольства РБ у Вашынгтоне); Уласнаручныя паказаньні Канстантына Езавітава (з архіваў КДБ); Л. Мірачыцкі — Жыцьцё для Айчыны (пра Ларысу Геніюш); В. Супрун — Зь інцінскіх «ксіў» (вершы); М. Кавыль — Із агню ды ў полымя (працяг раману); П. Нядзьвецкі — Сумна (ноты і словы танга); Я. А. — «Мы яшчэ сустрэнемся» (ліст зь Беларусі Масею Сяднёву); Я. Сажыч — «Я быў сярод свайго народу»; С. Белая — Куды вядзе гэты шлях? (пра Чарнобыль); хроніка.

## *АД НЭЎТРАЛЬНАСЬЦІ ДА «КАЛЕКТЫЎНАЙ БЯСЬПЕКІ»*

Грунтоўнае азнаямленьне з праблемай, якую паставіў перад парлямэнтам Беларусі ўрад Прэм'ера Кебіча сваёй ініцыятывай аб ваенным саюзе з Расеяй, дала ў часапісе радыястанцыі «Свабода» RFE/RL Research Report (V.2, № 17,23 April 1993, p. 24-31) дасьледніца Катлін Мігаліска. У канцы свайго ўдакумэнтаванага аналізу дэбатаў, што адбываюцца ў Менску вакол дылемы — нэўтральнасьць ці ваенны саюз з Расеяй — Мігаліска піша наступнае пра беларускіх «нацыянал-дэмакратычных лідэраў» (якія перасьцерагаюць, што ініцыятыва ваеннага саюзу з Расеяй можа папсаваць дачыненьні Беларусі зь іншымі блізкімі суседзямі):

«Яны (беларускія «лідэры») могуць мець рацыю ў выпадку з Кіевам, калі ўлічваць цьверджаньні, што Расея робіць спробы ізаляваць Украіну. Але сумлевы ўкраінцаў што да разумнасьці ратыфікацыі СНУ-1, адмова Кіева ад удзелу ў СНДэўскіх структурах ды цьвярдая пазыцыя што да разьмешчаньня на Украіне ваенных сілаў, не зрабілі нічога, каб паслабіць традыцыйны страх расейцаў перад акружэньнем. У дадзеным кантэксьце згода Беларусі на калектыўную абарону — калі форма гэтая з часам напоўніцца зьместам — можа стацца перамогай для тых стратэгаў у Маскве, якія згаджаюцца з генэралам Івановам, што (для Расеі) ахоўны кардон (cordon sanitaire) няпрымальны».

## *ГОРАДЗЕНСКІ БІЗНЭС-КАЛЕДЖ*

У Горадні плянуецца адкрыцьцё першага ў рэспубліцы прыватнага бізнэсаўскага каледжу, у якім будуць выкладацца эканоміка, маркетынг, мэнаджмэнт і сумежныя дысцыпліны. Навучаньне будзе платным. Першы набор студэнтаў — каля 100 чалавек. (ВТ, 22.04.93,14)

## ЗЬЕЗД ПАЛЯКОЎ У ГАРОДНІ

На Горадзеншчыне ўва ўсіх раёнах дзейнічаюць аддзелы Саюзу Палякоў Беларусі, які ў канцы красавіка правёў свой зьезд. Расшыраецца сетка гурткоў, факультэтаў, польскіх клясаў. Фінансуе гэтую дзейнасьць у ладнай меры Польшча, якая выдзеліла нядаўна на СПБ 100 тысячаў даляраў. (ВТ, 26.04.93,3)

## «ГОЛАС ЧАСУ» № 24(3), 1993

На 42-х старонках гэтага лёнданскага выданьня:

Другі Ўсебеларускі Кангрэс 27.6.1944 г.; А. Змагар — Дэлегат (верш); А. Мірановіч — Генэзіс царкоўных брацтваў на беларускіх землях у XVI-XVII стст.; Не на часе бунт (пра пазыцыю БНФ у дачыненьні за Зьезду беларусаў сьвету); Зварот да беларускай моладзі (аргкамітэту Першага зьезду беларусаў сьвету); С. Валодзька — Ліст з Латвіі; А. Б-чык — «Бедныя камуністы!»; Н. Сцяжко — Ачышчэньне ў праўдзе (пра тэатр); Н. Сцяжко — По залах музэя Алеся Белакоза; В. Цярпіцкі — Пад натхненне дыскусіі ў Беларускім Клюбе; Ю. Сьвяржынскі — Галасы аб «Вялікай Айчыннай вайне» і ўдзел у ёй савецкіх і польскіх партызан; А. Асіпчык — Жыровічы; С. Чыгрын — Усьпенскі сабор у Жыровічах (верш); Я. Цумараў — (прапанова заснаваць у Менску супольнае выдавецтва); І. Антонаў — Зьніштажыцелі беларускай школы і царквы праваслаўнай; хроніка; выпісы з прэсы.

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

### СЬВЯТА ПАТРОНКІ. УШАНАВАНЬНЕ ЎЛАДЫКІ

23 траўня ў Гайленд-Парку парафія Божай Маці Жыровіцкай ўрачыста адсьвяткавала дзень сваё патронкі. Багаслужбу адправілі а. Архімандрыт Карп і настяцель парафіі а. Пратаярэй Васіль. Парафія ўшанавала 25-я ўгодкі хіратоніі ў епіскапы Ўладыкі Мікалая, сёньняшняга Мітрапаліта і Першага Гіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, ды адзначыла 80-я ўгодкі народзінаў а. Архім. Карпа.

На ўрачыстасьці былі парафіяне і шмат гасьцей з бліжэйшых і далейшых ваколіцаў. Аб дзейнасьці Мітрапаліта Мікалая гаварыў у дакладзе сп. Васіль Русак. Была наладжаная выстаўка царкоўнае літаратуры. Сярод экспанатаў было Евангельле на беларускай мове, выдадзенае Ўладыкам Мікалаем, ды беларускія малітоўнікі, у выданьні якіх браў удзел Уладыка.

На сьвяткаваньні была адзначаная дзейнасьць а. Архім. Карпа Стара у разбудове парафіяў у Нью-Ёрку і Дораты.

**В. Р.**

### ХРАМАВОЕ СЬВЯТА

Саўтрывэрская парафія Сьв. Еўфрасіньні Полацкай адзначыла 6 чэрвеня гадавое сьвята свае патронкі. Урачыстую багаслужбу адслужыў а. Мячыслаў Брынкевіч. Цудоўна сьпяваў хор пад умелым кіраўніцтвам рэгента Андрэя Такаюка.

Вернікі пабачылі ў царкве ікону Ўсіх Беларускіх Сьвятых, устаноўленую на прыгожым кіёце работы мастака Алега Махнюка.

Пасьля багаслужбы адбыўся ў Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры пікнік з удзелам парафіянаў і запрошаных гасьцей. Быў вельмі багаты абед, падрыхтаваны сястрыцтвам (старшыня: сп-ня Ірэна Дутко). Дзякуючы шчодрасьці парафіянаў-ахвярадаўцаў, адбылася лятарэя, прыбытак зь якое пайшоў на царкву.

**Н.К.**

### НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ТОЕСНАСЬЦЬ І ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА

У сэрыі дакладаў на Ўнівэрсытэце імя Джонса Гопкінса ў Вашынгтоне др. Янка Запруднік прачытаў 14 чэрвеня сёлета даклад на тэму «Развіцьцё беларускай нацыянальнай тоеснасьці і ейны ўплыў на замежнапалітычную арыентацыю Беларусі». Тэкст дакладу будзе апублікаваны Кембрыджскім выдавецтвам у зборніку матар'ялаў, прысьвечаных пытаньням замежнае палітыкі заходніх рэспублікаў былога СССР.

## ТВАР ІНФЛЯЦЫІ




*Канвэрт, у якім у рэдакцыю «Беларуса» было прыслана колькі экзэмпляраў газэты «Наша слова». На двух баках канвэрту наклеена 151 марка: 38 па 5 р., 34 — па 10 р. і 79 — па 2 р., усіх на агульную суму 588 рублёў. Паводля апошніх вестак зь Беларусі, цэны ідуць далей рэзка ўгару.*

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ БЫЎ ДЛЯ ЛЕНІНА КРЫНІЦАЙ ІНФАРМАЦЫІ ПРА БЕЛАРУСАЎ

Аб крыніцах, зь якіх Ленін браў інфармацыю пра беларусаў, пісалі шмат якія дасьледнікі, але ніхто зь іх не называў Антона Луцкевіча. Тымчасам факт, што Ленін карыстаўся вынікамі працы Луцкевіча, выглядае незапярэчным. Хоць тэма гэтая сёньня і не нагэтульки важная, наколькі яе рабіла сваім часам партыйная дыктатура, яе варта разглядзець, бо яна кідае сьвятло на асьветніцкую дзейнасьць маладога Антона Луцкевіча.

У газэце «ЛіМ» ад 7.XI.1980 г. быў зьмешчаны артыкул Генрыха Далідовіча пра Леніна і кнігі, зь якіх ён мог даведвацца пра Беларусь. Далідовіч назваў адну кнігу, зь якой Ленін рабіў выпіскі. «У 1913 годзе, — устанавіў Далідовіч, — Ленін знаёміўся з кнігай 'Формы нацыянальнага руху ў сучасных дзяржавах' і зрабіў нямала выпісак, што датычыліся Беларусі, беларусаў».

Названая Далідовічам кніга — гэта выдадзены ў Пецярбургу ў 1910 выдавецтвам «Общественная польза» зборнік «Формы национального движения в современных государствах. Австро-Венгрия. Россия. Германия». Адзінаццаць старонак у гэтай кнізе займае артыкул пад заг. «Белоруссы», у канцы якога стаіць подпіс — Антон Новіна. Гэта псэўданім Антона Луцкевіча, як можна ўстанавіць паводля шостага тому БелСЭ: «ЛУЦКЕВІЧ Антон Іванавіч (псэўданімы: Антона Навіна, Генрык Букавецкі, Іван Мялешка, Кумальга і інш.)». Антон Луцкевіч быў здольным і пладавітым публіцыстам.

Ленін ня мог рабіць выпіскі зь ніякага іншага артыкулу ў кнізе «Формы нацыянальнага руху», бо Луцкевічаў артыкул быў адзіны ў ёй на тэму Беларусі.

Ёсьць цікавы сьлед Луцкевічавага ўплыву на Ленінаву паінфармаванасьць пра Беларусь.

Луцкевічаў артыкул пачынаецца ад разгляду пытаньня пра колькасьць беларусаў. Пытаньне гэтае ў 1910 годзе было спрэчнае: перапіс жыхарства Расійскае імпэрыі 1897 году устанавіў быў адзін лік, а праф. Яўхім Карскі, тады ўжо выдатны аўтарытэт, з гэным лікам не пагадзіўся і апублікаваў свой лік, большы. Луцкевічаў артыкул і пачынаецца ад разгляду гэтага пытаньня:

«Перапіс 1897 году налічвае ў Расійскай імпэрыі 5.885.547 беларусаў. Аднак, лік гэты наўрад ці можа ўважацца за дакладны; розныя акалічнасьці мясцовае палітыкі, прадузятасьць, зь якой падыходзілі да зьбіраньня дадзеных арганізатары перапісу, нястача нацыянальнае самасьведамасьці сярод шырокіх народных масаў, — усё гэта робіць дадзеныя пра нацыянальны склад наагул, а ўпаасобку пра лік беларусаў мала верагоднымі.

«Больш даверу, — пісаў Навіна-Луцкевіч, — заслугоўвае навуковае вывучэньне гэтага пытаньня, што належыць прафэсару Карскаму, які, кіруючыся лінгвістычнымі асаблівасьцямі беларусаў, вызначае іхную колькасьць на Беларусі лікам больш за восем мільёнаў».

Пытаньне пра колькасьць беларусаў ды іншыя аспэкты беларускае гісторыі і нацыянальнага руху ў 1913 годзе было няясным, пэўна-ж, і для Леніна — дзеля гэтага ён і зрабіў з Луцкевічавага артыкулу «нямала выпісак», як зазначыў у «ЛіМе» Генрых Далідовіч. Пад уплывам гэтага артыкулу Ленін зьмяніў свае выказваньні пра колькасьць беларусаў. Што гэткая зьмена адбылася, мы даведаліся з брашуры Міколы Ермаловіча пра Леніна і беларусаў, выдадзенай у 1970 годзе ў сэрыі «Бібліятэчка газэты 'Голас Радзімы'», у якой чытаем:

«Ленін, незадаволены афіцыйнымі зьвесткамі аб колькасьці беларусаў, настойліва шукаў больш надзейныя матар'ялы па гэтым пытаньні. Так, калі ў 1913 годзе ён прыводзіў даныя, згодна зь якімі беларусы складалі 4,5 працэнта ад усяго насельніцтва Расіі, то ў 1914 годзе Ленін называе больш дакладную лічбу — 6 працэнтаў».

Вось чаму можна казаць, што гэта якраз Антон Луцкевіч дапамог Леніну разабрацца ў беларускім пытаньні і ўстанавіць, кажучы словамі Міколы Ермаловіча, «больш дакладную лічбу» беларусаў.

**Янка Запруднік**

### АМЭРЫКАНСКАЯ КНІГА ПРА ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ДЗЯЦЕЙ

Як даведваемся з квартальніка Belarusian Review (vol. 5 № 1), у ЗША і ў Беларусі выходзіць у чэрвені сёлета кніга пра дзяцей Чарнобыля і справу дапамогі ім з боку амэрыканскае арганізацыі Сітыгоўп. Аўтары кнігі — Мішэль Картэр і Майкл Крыстэнсэн. Уступ да кнігі напісала Вольга Корбут. Рэдактар BR, прачытаўшы кнігу яшчэ ў гранках, зрабіў некаторыя крытычныя заўвагі: беларускія назовы ў кнізе падаюцца ў расейскай форме; слова «Беларусь» трансьлітаруецца яшчэ па-старому — Byelorussia, а не Belarus — ды інш.

Арганізацыя Сітыўгоп, узначальваная дастойным сьвятаром Полам Морам, робіць вялікую справу, дапамагаючы Беларусі вылечвацца ад Чарнобыля. Трэба спадзявацца, што яна таксама дапаможа беларусам вызбавіцца і ад Чарнобыля духовага ды вярнуцца да сваіх культурных каранёў.

### СКАНДАЛ НА ВЯРШАЛІНЕ ЎЛАДЫ

У рубрыцы «Скандал» газэта «Звязда» (22.05.93), пад заг. «З гэтага часу Станіслаў Шушкевіч мае намер гутарыць зь Пятром Краўчанкам толькі пры сьведках», падала пра войстры канфлікт паміж спсп. Шушкевічам і Краўчанкам, які паўстаў у выніку непаразуменьня паміж імі што да даты прыезду Старшыні ВС Беларусі Шушкевіча з афіцыйным візытам у Вашынгтон.

«Камэнціруючы інцыдэнт, — піша карэспандэнт газэты Валянцін Жданко, — кіраўнік парлямэнту даў зразумець, што ён бачыць у стылі работы зьнешнепалітычнага ведамства выразныя рысы старой партыйна-бюракратычнай машыны».

### ПЕРАСЬЦЯРОГА ЎДЗЕЛЬНІКАМ ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Максім Гілеўскі, дапішчык газэты «Культура» (10.05.93) у артыкуле, пра які рэдакцыя «Культуры» зазначыла, што ён «можа выклікаць палеміку», выказаў засьцярогі што да мэтазгоднасьці братаньня беларускіх эмігрантаў з прадстаўнікамі ўраду Беларусі. Пра ўрад рэспублікі аўтар піша:

«З усёй сілай пры дапамозе камуністычнай большасьці Вярхоўнага Савету гэты ўрад змагаецца за скасаваньне нашага нэйтралітэту, уцягваючы Беларусь у ваенны блёк з Расіяй. З усёй сілай супрацiўляецца гэты ўрад станаўленьню абавязковых атрыбутаў дзяржаўнасьці, заганяючы нас у эканамічны саюз з катастрафічна нестабільнай імпэрыяй. Сёньняшні ўрад — гэта людзі, якія жадаюць дзяржаўнага двухмоўя на Беларусі. Людзі, якія мараць пра двайное грамадзянства ў нашай краіне. Людзі, якія зьбёдалі некалькі гадоў упустую, не спрабуючы перавесьці эканоміку дзяржавы ў патрэбнае рэчышча, а сёньня ўзьнялі крык пра адзіны выратавальны крок — у абдымкі да вялікага суседа».

І далей у тым-жа артыкуле Максіма Гілеўскага:

«Адказаць на пытаньне пра тое, каго-ж можна сёньня паважаць, на мой пагляд, сапраўды здолее толькі III-я Ўсебеларуская палітычная канфэрэнцыя».

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУС»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Ф. Бартуль | ам. д. 200 |
| Н. Орса | 30 |
| К. Ворт (замест кветак на магілу с.п. Н. Кулеш ад К. і Н. Вайцяхоўскіх) | 30 |

*Ад нашага прадстаўніка ў Лёндане, Англія, сп. Мікалая Сенькі:*

| Падпіска й ахвяры: | |
|---|---|
| П. Асіповіч | анг. ф. 20 |
| Я. Хахолка | 15 |
| Дж. Дынглі | 30 |
| Я. Дамінік | 30 |
| А. Макмілін | 20 |
| М. Дзейка | 20 |
| Я. Міхалюк | 25 |
| А. Якубовіч | 25 |
| А. Лашук | 40 |
| Г. Пікарда | 15 |
| А. Ражанец | 20 |
| В. Рыч | 15 |
| М. Сенька | 40 |
| М. Швэдзюк | 15 |
| П. Чайкоўскі | 35 |
| М. Залога | 20 |
| А. Зданковіч | 30 |
| В. Мартынчык | 20 |
| П. Шыркоўскі | 25 |

Усім шчыры дзякуй за падтрымваньне роднага слова і ўзаемнае сувязі!

**Рэдакцыя «Беларуса»**